

*Прывітанне, сябры!*

*Ці верыце вы ў цуды? Рэдакцыя ALOVAK з усёй адказнасцю сцвярджае – яны існуюць! Часцей яны здараюцца без нашага з вамі жадання і ўдзелу, а часам чараўніцтва патрабуе невялікай дапамогі, каб здзівіць і парадаваць сябе і родных. Бо кожны з нас у адно імгненне можа стаць для кагосьці Дзедам Марозам або Чароўнай феяй. Для гэтага можа быць дастаткова нават усмешкі, аднаго цёплага слова або зробленай уласнаруч паштоўкі. Стварыць святочную атмасферу вакол таксама зусім не складана. А творчаму чалавеку з фантазіяй усё падуладна: галоўнае – жаданне!*

*Да сустрэчы ў новым 2017 годзе!*

***Ваша каманда ALOVAK***

# Каманда ALOVAK:

## СТВАРАЛЬНІКІ ЧАСОПІСА:

Кацярына БУТО



Ірына БЕЛЬСКАЯ



## РЭДАКТАРЫ:

Надзея ЗІМІРАВА



Вольга БАРЫСЕНКА



Аксана СЕМЯНЬКЕВІЧ



## НАД НУМАРАМ ПРАЦАВАЛІ:

Ірына АГЕЙЧЫК
*аўтар, фатограф*



Вікторыя АНЖЭ
*аўтар*



Яна БУНЦЭВІЧ
*ілюстратар*



Юлія БАГДАНЧЫК
*аўтар*



Вікторыя ВАВІЛОНСКАЯ
*ілюстратар*



Дар'я УЛАСАВА
*ілюстратар*



Святлана ВАРАШЫЛАВА
*фатограф*



Наста ГЛУШКО
*аўтар*



Таццяна ГРОСЛЕР
*перакладчык, аўтар*



Яна ЯФРЭМАВА
*фатограф*



Маша ЗАВАДЗКАЯ
*аўтар*



Кацярына КАРЭНЮГІНА
*аўтар*



Валянціна КАРЖЭВІЧ
*аўтар*



Аліна КРУСС
*аўтар*



Саша КАРАТАЕВА
*ілюстратар*



Марына КУЧУК
*фатограф*



Юля ПРАШКОВІЧ
*аўтар*



Марыя СОНГАЛЬ
*фатограф*



Ксенія САСНІНА
*аўтар*



Юлія ТРАФІМЕНКА
*дэкаратар*



Таццяна ХЛАПКОВА
*аўтар*



Кацярына ЧАРНЯЎСКАЯ
*аўтар*



АЛОВАК
*журналіст*



Хочаце прымаць удзел у стварэнні часопіса ALOVAK?

Раскажыце нам пра сябе на alovakmag@gmail.com


42


76


138


125

# елачныя
# ЦАЦКІ

*Новы год без елачных цацак – усё роўна што вяселле без маладой! У восьмым нумары ALOVAK, што прысвечаны самаму папулярнаму зімоваму святу, мы сабралі вялікую калекцыю цацак на елку. Тут вы знойдзеце як зусім простыя ідэі, так і прыклады высокага ўзроўню майстэрства, выкананыя ў разнастайных тэхніках. Без сумневу, кожны зможа знайсці сярод іх натхненне для сябе!*

# 1 Папяровы пернік

Крафт-папера, ніткі з іголкай, маркеры, файбертэк, вашая фантазія і зусім крыху часу – гэтага будзе дастаткова, каб у вас з'явілася стылёвая і простая цацка на елку, падобная да перніка.

Намалюйце на паперы маркерам персанаж ці прадмет, які падабаецца. Гэта будзе выкрайка-дэталь для цацкі – такія спатрэбяцца дзве. Сшыйце паміж сабой атрыманыя дэталі тэхнікай "наперад іголку" або абмётачным швом, пакінуўшы невялікую адтуліну. Напоўніце цацку файбертэкам (сінтэпонам), але не шчыльна, каб не парваць паперу, пасля чаго зашыйце адтуліну. Застанецца толькі прышыць пяцельку!

Тэкст: Ірына Бельская
Фота: Кацярына Буто






# *Шары з файбертэку*

Тэкст: Ірына Бельская
Фота: Кацярына Буто

А чаму б не зрабіць снежныя шарыкі на елку? Скручваць іх будзем з файбертэку, ён сам па сабе нагадвае снег. Для гэтага бяром горстку файбертэку, намыльваем у вадзе і робім з яго далонямі камяк. Калі файбертэк зацвярдзее, белымі ніткамі туга абмотваем шарык, пасля чаго прышываем пяцельку.

Вы можаце скручваць файбертэк, не замочваючы яго папярэдне, тады шарыкі атрымаюцца больш друзлымі і пухнатымі.



# Вязаныя сняжынкі

Тэкст, фота: Людміла Чысцякова (https://www.facebook.com/liudmila.tchistiakova)

Многія з нас умеюць вязаць кручком, а навагоднія святы – гэта найлепшы час, калі можна ўзгадаць свае ўменні і звязаць сняжынкі для ўпрыгажэння елкі і святочнага дэкору ўвогуле.

Для гэтага спатрэбяцца: кручок (памер 0,75 – 2,0) і белыя тонкія баваўняныя ніткі. Вязаць сняжынку трэба па прынцыпе сурвэткі, а ўжо разгарнуцца тут ёсць дзе! Можна знайсці схему вязання ў інтэрнэце, а можна скласці сваю ўласную, камбінуючы спалучэнні паветраных пяцелек, слупкоў без накіду і слупкоў з адным (двума, трыма) накідамі.

Пасля таго як сняжынка будзе гатовая, застанецца надаць ёй жорсткасць. Нехта выкарыстоўвае для гэтага клей ПВА або спецыяльны спрэй, а мы раім стары правераны спосаб – накрухмаліць выраб. Для гэтага вазьміце 2 сталовыя лыжкі бульбянога крухмалу і развядзіце яго ў 0,5 л халоднай вады. Добра перамяшайце і пастаўце варыцца да загусцення на вадзяной пары, перыядычна памешваючы. Дайце раствору крыху астыць і замачыце ў ім сняжынку на пэўны час.

Пасля гэтага выраб добра адцісніце і замацуйце на роўнай паверхні пры дапамозе шпілек. Пачакайце, калі сняжынка поўнасцю высахне.

Застанецца прышыць пятлю з ніткі – і можна вешаць на елку!












# Папяровыя ліхтарыкі

Тэкст, фота: Маша Завадзкая

**З матэрыялаў і інструментаў спатрэбяцца:**

- шчыльная папера;
- калька;
- нажніцы;
- канцылярскі нож;
- клей.

**1.** Спачатку трэба раздрукаваць або перамаляваць упадабаную схему ліхтарыка на паперу.

**Звярніце ўвагу!**
*Схемы ліхтарыкаў ад Машы Завадскай вы можаце спампаваць у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovaktag.by*

**2.** Выразаем акенцы канцылярскім нажом ці нажніцамі. З унутранага боку акенцаў прыклейваем кальку. Пасля гэтага па контуры выразаем усю разгортку ліхтарыка.

**3.** Загінаем разгортку па лініях так, каб наш ліхтарык атрымаў сваю форму. Пасля гэтага трэба зрабіць дзве адтуліны ў верхняй вечцы ліхтарыка і прадзець вяровачку або скрэпку, каб потым павесіць на елку.



**4.** Склейваем усе элементы. Атрымаўся прыгожы ліхтарык, які будзе ідэальна глядзецца на вашай елачцы ў асяродку навагодніх агеньчыкаў.

*Ліхтарыкі могуць стаць цудоўным абажурам для агеньчыка з гірлянды, стварыць асаблівую святочную атмасферу. Аднак звярніце ўвагу, што ў мэтах бяспекі такі спосаб можна выкарыстоўваць толькі для святлодыёдных гірляндаў.*

**Карысная інфармацыя:**
Маша Завадзкая, мастак
https://www.facebook.com/masshsa.zavadskaja






# Японская капуста

Тэкст, фота, ілюстрацыі: Маша Завадзкая

Гэтую мадэль прыдумала японская майстар арыгамі **Мінака Ішыбашы.**

Ці любіце вы цукеркі? Гэтую цацку мы збяром з самага каштоўнага – прыгожых фанцікаў ад цукерак. Але гэта можа быць і любая іншая папера, якая ёсць пад рукой: старыя глянцавыя часопісы, упакоўка ад падарунка і г.д. Цацка добрая тым, што складаецца з модуляў, якія не трэба склейваць.



Для яе вырабу нам спатрэбіцца **6 папяровых квадратаў 7х7 см**, аднак памер можа быць любым, ад гэтага будзе залежыць і памер вашай цацкі. Перад пачаткам складвання кладзем паперу споднім бокам уверх.

## Працэс:




**1.** Скласці квадрат напалову (моцна не прыгладжвайце) для таго, каб знайсці лінію сярэдзіны.

**2.** Сагнуць верхні і ніжні краі да лініі сярэдзіны квадрата і прагладзіць іх. У вас павінен атрымацца простакутнік.

**3.** Сагнуць правы і левы тарцы пад вуглом 45 градусаў супрацьлегла адзін аднаму, як паказана на малюнку. Зараз у вас павінен атрымацца паралелаграм.

**4.** Цалкам развярнуць нарыхтоўку.




**5.** Загнуць усе чатыры вуглы да першых гарызантальных складак, якія падзяляюць аркуш на чатыры часткі.

**6.** Загнуць верхні і ніжні краі паперы ўздоўж першых гарызантальных складак, што падзяляюць аркуш на чатыры часткі.

**7.** Скласці нарыхтоўку па дыяганалі паводле лініі, якая ў нас ужо ёсць.

**8.** Адцягнуць крыху назад унутраны край, зроблены ў шостым пункце, да ўжо існуючай паралельнай складкі. Адначасова сагнуць ніжні край па існуючай на паперы складцы.




**9.** Паўтарыць крокі 6 – 8 з левага боку.

**10.** Адцягнуць ніжні беражок і ўставіць пад яго атрыманы левы край.

**11.** Добра разгладзіць атрыманую дэталь. Яна мае форму паралелаграма.

**12.** Перавярнуць і загнуць кожны з вострых канцоў да тупых вуглоў паралелаграма.

**Дэталь гатовая.** Робім такіх яшчэ пяць, пасля чаго з атрыманых нарыхтовак пачынаем складваць шар.

Бяром дзве дэталі і ўстаўляем край адной дэталі ў цэнтральную частку другой. Другую – у трэцюю, і так усе шэсць. Першую злучаем з шостай. Атрымліваем кубік з пялёсткамі. І нарэшце распраўляем пялёсткі ў нашага кубіка – і вось у нас гатовы шар на елку ў выглядзе капусты.

**Карысная інфармацыя:**
Маша Завадзкая, мастак
https://www.facebook.com/masshsa.zavadskaja




# Пацерка да пацеры

Тэкст: Таццяна Шурвель
Фота: Кацярына Бута

*Дызайнер Таццяна ШУРВЕЛЬ развівае інтэр'ерны праект ART HOME studio і выпускае біжутэрыю і торбы пад брэндам TIA design. З намі Таццяна падзялілася ідэяй стварэння елачных цацак з бісеру і пацераў.*

Выраб адной такой елачнай цацкі займае дастаткова шмат часу, але гэты працэс вельмі зацягвае. Натхняюся я ў асноўным матэрыяламі – у мяне назбіралася ўжо шмат пацераў, бісеру, якія я набываю, часам нават не ведаючы, што хачу з гэтага зрабіць. Проста таму, што не магу прайсці міма магазінаў для рукадзелля. Калі ёсць натхненне, дастаю ўсе свае запасы і пачынаю тварыць. Яшчэ на стварэнне цацак натхняюць, канешне, святы і жаданні замоўцаў.

## *Парады Таццяны па стварэнні навагодніх упрыгажэнняў*

• Такія цацкі, як у мяне, можна або вышываць па гатовай нарыхтоўцы (упрыгажэнне ў выглядзе кветкі-зоркі), або спачатку вышыць асобныя элементы, а затым сшыць іх або склеіць (упрыгажэнні з кутасікамі з бісеру). Усё залежыць ад памеру нарыхтоўкі, яе формы (пляскатай ці аб'ёмнай) і вашага жадання.

• Для аб'ёмных нарыхтовак я выкарыстоўваю паралон, з якога выразаю форму контуру будучага ўпрыгажэння.

• Расшываць упрыгажэнні можна не толькі бісерам і пацерамі, але і стразамі, металічнымі спружынкамі, гузікамі і г.д. Стварыць прыгажосць можна з любых дробязяў, якія знойдуцца ў кожным доме, галоўнае ўключыць фантазію!

**Карысная інфармацыя:**
Таццяна Шурвель, дызайнер
instagram.com/art_homestudio








# *Лясны дух*

Тэкст, фота: Іна Раманчанка

*Мастак Іна РАМАНЧАНКА стварае інтэр'ерныя цацкі і ўпрыгажэнні, якія, здаецца, так і пахнуць лесам, апалым лісцем і мохам. Лясную тэму Іна падтрымала і ў калекцыі навагодніх цацак, а ALOVAK даведаўся пра падрабязнасці працэсу іх стварэння.*

Гэтая серыя навагодніх цацак атрымалася лаканічнай і практычна манахромнай. Звычайна я выкарыстоўваю шмат колераў, адценняў, што добра спалучаюцца

паміж сабой, а тут мне захацелася зрабіць нешта графічнае, лёгкае. Дэкаратыўнасці дамагла-ся некалькімі каляровымі плямамі і тонкімі лініямі прамалёўкі. Невялікая елка, упрыгожаная такімі цацкамі і тонкай гірляндай лямпачак, будзе глядзецца цікава, незвычайна і ўзвышана.

Натхненне прыходзіць, як гэта часта бывае, раптоўна. Часам дастаткова зірнуць на акно, і прамень зімовага сонейка, тонкія завіткі марознага ўзору на шкле ўжо самі падказваюць маёй фантазіі, што рабіць. Або прачытаныя напярэдадні радкі ў кнізе выбудоўваюцца ў асацыяцыі, афармляючыся потым у мастацкі вобраз... Або пляма фарбы на палітры расцякаецца ў цікавы сілуэт: глядзіш – вось жа яно! Натхненне паўсюль, трэба толькі ўмець схапіць яго і ўвасобіць у рэальнасць.

Мае працы выкананыя з баваўнянай тканіны, распісанай акрылавымі фарбамі, плюс я дадала тонкія рыскі гелевай асадкай. Фінальны этап – замацаванне фарбы і... цацкі гатовыя ўпрыгожыць інтэр’ер!



**Мая галоўная парада – не бойцеся тварыць!**

Выкарыстоўвайце ўсе магчымыя матэрыялы, пачынаючы ад традыцыйных, заканчваючы зусім нетрывіяльнымі. Купілі сетку мандарынаў... а калі выразаць з яе крылы, пафарбаваць залацістай фарбай, замацаваць на палачцы – вось лёгкая страказа ляціць упрыгожваць вашую елачку. Старыя гузікі, бісер, ласкутныя тканіны, вяроўкі, званочкі, шышкі, жалуды... з такім багаццем можна прыдумаць і стварыць сваю непаўторную калекцыю елачных упрыгажэнняў!

**Карысная інфармацыя:**
Іна Раманчанка, мастак
instagram.com/mandragora_root



# Цацка на ўспамін

Тэкст: Лена Наумовіч
Фота: Яна Яфрэмава

*Мастак-афармляльнік мінскага ГУМа Лена НАУМОВІЧ падзялілася з намі ідэяй вельмі кранальнай елачнай цацкі, якая мае ўсе шанцы стаць вашай сямейнай рэліквіяй.*



У межах святкавання 65-гадовага юбілею магазіна ў нас ладзілася кампанія пад слоганам “65 гадоў разам!”. Ідэя з фотарамкамі на елку стала яе лагічным працягам, таму што ў іх мы размясцілі дзіцячыя фотаздымкі супрацоўнікаў ГУМа і іх дзяцей. Мы прасілі ўсіх прынесці такія фотаздымкі, але не гаварылі, для чаго яны нам патрэбны. Атрымаўся такі прыемны навагодні сюрпрыз.

## Як?

• Каб зрабіць такія цацкі, нам спатрэбілася шмат драўляных рамак для фота адпаведнага памеру, белая і залатая акрылавыя фарбы, наждачная папера, акрылавы лак, дэкаратыўны шнурок, дрот для замацавання, клей-пісталет. І фотаздымкі, вядома.

• Для нашай елкі вышынёю 4,5 м падышлі рамкі круглай формы 15 і 18 см у дыяметры. Для меншых елак падыдуць невялікія рамкі.

• Спачатку мы пафарбавалі рамкі белай фарбай пры дапамозе паралонавай губкі. Калі выкарыстоўваць пэндзаль, яго фактура будзе надта вылучацца.

• Пасля высыхання мы нанеслі на паверхню рамкі сухім пэндзлем залатую фарбу, пасля чаго яе крыху пацерлі пры дапамозе наждачнай паперы, дасягнуўшы эфекту старой афарбоўкі.

• Пакрылі рамкі акрылавым матавым лакам.

• Каб зрабіць замацаванні на елку, мы выкарысталі дрот, які прыклеілі пры дапамозе гарачага клею (клей-пісталета) на адваротным баку рамкі. Замест дроту можна выкарыстаць і звычайную вяроўку ці стужку.

• Упрыгожылі рамку бантам, зробленым з дэкаратыўнага шнурка.

• Уставілі фотаздымкі ў рамкі і павесілі на елку!




# Цацкі с вышыўкай

Тэкст, фота: Наталля Мартысюк

*Майстар з Брэста Наталля МАРТЫСЮК пагутарыла з ALOVAK пра сакрэты вышывання, а таксама падзялілася двума схемамі для вышыўкі, якія яна распрацавала сама.*

У 19 гадоў я ўбачыла ў часопісе Burda вышыўку з мілымі анёламі і дужа зацікавілася: стала шукаць усе новыя схемы вышыўкі, перамалёўвала іх уласнаруч на сшыткавыя аркушы ў клетачку, набывала рэдкія ў тыя часы часопісы па рукадзеллі, падбірала матэрыялы. Потым я захапілася пашывам адзення, засвоіла асновы канструявання, затым крыху вязала. Адно з самых значных месцаў пасля вышывання ў маёй творчасці займае пашыў тэкстыльных цацак. Усё пачалося банальна: не было чым упрыгожыць елачку на працы. Водгукі калег сталі стымулам да стварэння іншых вырабаў, з'явіліся першыя замовы і магчымасць узяць удзел у пераднавагодніх кірмашах "Млын" у Мінску і "Кірмаш цудаў" у Брэсце.

Часам нават зусім дробны вышыты матыў можа натхніць на стварэнне навагодняй цацкі. Галава напаўняецца ідэямі пра тое, з якой тканінай, з якой формай цацкі гэтая вышыўка можа спалучацца. А ўвогуле, само чаканне свята, прыбраныя вітрыны магазінаў, пераднавагодняя мітусня і ўзвышаны настрой – усё вельмі моцна натхняе.

Паколькі самым любімым відам рукадзелля ў мяне з'яўляецца вышыўка крыжыкам, то менавіта ў такой тэхніцы я афармляю большасць сваіх працаў. Але зусім нядаўна я пазнаёмілася з вышываннем у тэхніцы рэдворк (redwork), яна досыць простая ў выкананні, але выглядае ярка і вельмі арыгінальна. Сама назва тэхнікі гаворыць пра тое, што вышыўка выконваецца чырвонай ніткай. Трэба адзначыць, што разам з рэдворкам існуюць аналагічныя вышыўкі, такія як блэкворк (blackwork), блуворк



(bluework) і іншыя, то бок назва звязаная з колерам ніткі, якой выконваецца праца. Традыцыйна рэдворк вышываецца сцяблістым швом або швом назад іголку. У дадзенай тэхніцы можна выкарыстоўваць таксама гладзевае шво, французскі вузельчык, “елачку”. Для вышыўкі выкарыстоўваюцца ніткі мулінэ, а калі іх няма, то можна ўзяць звычайныя швейныя ніткі, складзеныя ў некалькі разоў.

Магчыма, камусьці гэтая вышыўка падасца крыху простай, але ў гэтым і ёсць яе хараство, бо прыгожыя рэчы не абавязкова павінны быць выкананыя складана і незразумела.

## *Парады па вышыўцы ад Наталлі Мартысюк:*

**Самая галоўная парада** – выкарыстоўвайце якасныя матэрыялы і імкніцеся выконваць працу як мага акуратней. Калі вы вырашыце паспрабаваць нейкую новую тэхніку – абавязкова прачытайце пра яе, пра ўсе ўласцівасці. Добра, што ў наш час інтэрнэт напоўнены майстар-класамі і іншай карыснай інфармацыяй.

Схема, якую я прапаноўваю вышыць, можа быць выкананая ў любым колеры, яна можа быць як аднатоннай, так і вышытай ніткамі розных колераў (як у мяне), для большай урачыстасці дадайце ў вышыўку карункі і бісер. Імкніцеся падабраць ніткі для вышыўкі такім чынам, каб яны гарманічна спалучаліся з тканінай, якую вы будзеце выкарыстоўваць для пашыву цацкі.

## *Звярніце ўвагу!*

Схемы па вышыўцы ад Наталлі Мартысюк вы знойдзеце ў раздзеле “Карыснае” на сайце alovakmag.by

## *Гэта цікава*

Калі вы вырашыце аформіць вышыўку Наталлі ў сардэчка, прапаноўваем азнаёміцца з майстар-класам па яго пашыве, што размешчаны ў блогу майстра:
http://handmade-natulja-best.blogspot.com.by/2015/10/how-to-sew-perfect-heart.html



**Карысная інфармацыя:**
Наталля Мартысюк, майстар
instagram.com/natuljabest






# Шары з нітак

*Тэкст падрыхтавала: Кацярына Бута. Фота: Ірына Храброўская*

*Фларыст-дызайнер Ірына ХРАБРОЎСКАЯ пачала рабіць елачныя цацкі, калі ў сям’і з’явілася маленькае дзіця:*

“Звычайна наша сямейная елка ўпрыгожвалася рэтра-цацкамі, за цэласць якіх са з’яўленнем дзіцяці мы сталі хвалявацца. Так я прыйшла да таго, што кожны год дадаю ў калекцыю нашых упрыгажэнняў некалькі саматробных цацак, якія немагчыма разбіць”. Натхненне для стварэння цацак Ірына звычайна знаходзіць праз Instagram, у фларыстычных і самаробных профілях, якія напярэдадні святаў дзеляцца цікавымі навагоднімі ідэямі.

Шары, якая Ірына паказала для 8 нумара ALOVAK трывалыя, але пры гэтым лёгкія і прыемныя навобмацак, а рабіць іх нескладана:

“Тэхніка выканання маіх цацак – пенапластавы шар (такія можна набыць у любым магазіне для творчасці). Аснову шчыльна абмотваю баваўнянымі ніткамі ці прадзівам, а далей даю волю фантазіі і ўпрыгожваю цацкі вышыўкай.

Зараз у магазінах вялікі выбар тавараў для творчасці, і кожны можа знайсці “свой” матэрыял. Я люблю ніткі і прадзіва без бляску, такія як “ірыс” і “мулінэ”, але эксперыменты і фантазія здольныя даць вельмі цікавы вынік. Паспрабуйце!”






# Зорныя цацкі

Тэкст, фота: Юлія Сазонава

*Майстар Юлія САЗОНАВА з расійскага горада Каменск-Уральскі распавяла ALOVAK гісторыю стварэння сваіх чароўных навагодніх цацак, а таксама падзялілася з чытачамі парадамі.*



Я заўсёды цікавілася творчасцю: і пацеркі рабіла, і ў валянні з воўны сябе спрабавала, але калі пачала шыць цацкі, на гэтым і спынілася. Ужо больш за пяць гадоў гэтым займаюся.

Апроч цацак, аднойчы вырашыла пашыць зорачкі – якраз патрэбна было чымсьці здзіўляць наведвальнікаў навагодняй выставы. Самыя першыя былі даволі простымі, але з вельмі прыгожай навагодняй тканіны. Фантазія панесла мае думкі далей, захацелася зрабіць нешта больш цікавае. І пачалася міні-эпоха ільняных зорачак з намаляванымі тварыкамі. Спачатку я малявала твары адразу на "целе" зорак, потым прышывала загадзя выкананыя на тканіне.
Я пачала прыдумваць, як яшчэ можна разнастаіць свае навагоднія вырабы – так з'явіліся зоркі з ляпнымі тварамі. Аднойчы ў магазіне для творчасці я ўбачыла молды для адбітку міні-тварыкаў. Заставалася вырашыць, з чаго ляпіць. Спачатку былі спробы, пошук інфармацыі ў інтэрнэце, як лепш зрабіць адбіткі. Спынілася на паперклеі – гэта маса, якая сама становіцца цвёрдай, а галоўны складнік гэтай масы – папера. Пасля зацвярдзення яе можна лёгка раўняць скуркай, паліраваць. Майстры-цацачнікі вельмі любяць гэтую масу, і мне яна вельмі спадабалася. Ужо некалькі гадоў зорачкі з такімі тварыкамі разлятаюцца па розных гарадах. Як вядома, у творчага чалавека ўсё выпадковае не выпадкова.

Гэтыя зоркі мой гонар, аднойчы яны сталі "Працай дня" на хэндмэйд-партале "Ярмарка мастеров", было вельмі прыемна апынуцца сярод тысячаў рамеснікаў на галоўнай старонцы, няхай гэта і быў усяго толькі адзін дзень, але тое быў дзень маіх зорачак.

Для тых, хто хоча паспрабаваць зрабіць падобныя зоркі, я хачу пажадаць поспеху і даць некалькі парадаў. Па-першае, абірайце якасныя, прыгожыя тканіны. Яны сама-

бытныя і прыемныя ў працы, а вынік заўсёды станоўчы.

Паводле твараў магу сказаць, што нават калі вы не знойдзеце ў магазіне падыходзячы молд, не пакідайце ідэю стварэння. Можна праявіць крыху фантазіі і зрабіць свой уласны аўтарскі молд. Напрыклад, аднойчы я ўбачыла ў магазіне магнiцiк у выглядзе маскі і набыла яго, доўга не думаючы. Потым абклеіла яго пластылінам, заліла гіпсавай сумессю – вось і гатовы молд. Можна пашукаць мініяцюрныя лялькі, пластыкавыя ці фарфоравыя, і зняць злепак з іх. Зусім не абавязкова выкарыстоўваць паперклей, можна паспрабаваць звычайную палімерную гліну ці што-небудзь іншае. Зараз у магазінах шмат самых розных масаў, якія самі робяцца цвёрдымі. Іх можна знайсці нават у аддзелах дзіцячай творчасці.






**Карысная інфармацыя:**
Юлія Сазонава, майстар
juli-bears.livemaster.ru
instagram.com/sozonova_yuliya




# Ватныя цацкі

Тэкст падрыхтавала: Кацярына Бута
Фота: Святлана Салавая

*Мастак па ляльках Святлана САЛАВАЯ, аўтар праекту "500 эскімо", стварае пазнавальныя елачныя ўпрыгажэнні з ваты. Яе кранальныя вобразы дзяцей у строях звяроў нібыта перанесліся на машыне часу з нашага дзяцінства.*

Распавядаючы пра час з'яўлення захаплення, Святлана ўзгадвае свае самыя раннія гады: "Хутчэй за ўсё, гэта любоў з дзяцінства, бацькі заўсёды ўпрыгожвалі елку, і Новы год быў па-сапраўднаму чароўным святам. Усе цацкі на нашай елцы былі старадаўнімі, захавалася нават крыху ватных".

На пытанне пра тое, як з'явіліся такія вобразы, мастачка адказала: "Напэўна, таму што Новы год для мяне ў першую чаргу дзіцячае свята, і ён вяртае мяне ў тую казачную атмасферу. Можа быць яшчэ і таму, што сярод старых цацак, з якіх усё і пачыналася, было шмат дзіцячых персанажаў".

Традыцыя вырабу цацак з ваты вядомая даўно, агульныя прынцыпы і тэхналогіі практычна не змяніліся, толькі матэрыялы выкарыстоўваюцца больш сучасныя і дасяжныя. Так крухмальны клейстар майстры замяняюць клеем ПВА, а для твараў сталі выкарыстоўваць не масціку ці воск, а, напрыклад, палімерную гліну.

Аснова такіх цацак – вата – выдатны матэрыял, дасяжны і лёгкі, працаваць з ёй вельмі прыемна, але цярплівасць трэба назапасіць, бо працэс вырабу дастаткова доўгі.





## *Парады Святланы Салавой па тэхніцы вырабу цацак з ваты:*

• Матэрыялы і інструменты, якія спатрэбяцца ў працы: вата, клей ПВА, дрот таўшчынёю каля 2 мм, белыя баваўняныя ніткі, акварэльныя фарбы, пэндзлі (для клею і для фарбы), абцугі, кусачкі.

• Найперш, вызначцеся з тым, што менавіта вы будзеце ствараць, намалюйце эскіз. Затым у адпаведнасці з эскізам зрабіце каркас з дроту.

• Наступны этап – абмотванне каркасу ватай. Рабіць гэта трэба не вельмі шчыльна.

• Ніткі спатрэбяцца для абмотвання фігуры, каб надаць ватнай нарыхтоўцы форму, да якой імкнёмся. Пасля гэтага, калі трэба, дадайце вату там, дзе яе не хапіла, і зноў фармуйце фігуру пры дапамозе нітак.

• Далей фігура абклейваецца пластамі ваты з клеем. Каб цацка была трывалай, трэба зрабіць некалькі такіх пластоў.

• Сохнуць фігура будзе доўга, да 12 гадзін. Рабіць гэта можна ў падвешаным стане. Працэс высыхання клею можна паскорыць, напрыклад, пры дапамозе фена.

• Пасля высыхання фігурка павінна быць цвёрдай. Калі ў нейкіх месцах яна прамінаецца ці, на ваш погляд, фігуры не хапае аб'ёму, можна прыклеіць яшчэ ваты.

• Апошні этап – роспіс акварэльнымі фарбамі. Тут усё залежыць толькі ад вашага ўмення. Майце на ўвазе, што па мокрай ваце фарбы будуць вельмі прыгожа расплывацца. Таму калі патрэбна дакладная лінія, то малюйце па высахлай ваце, а калі расплывістая, то па сырой.





**Карысная інфармацыя:**
Святлана Салавая,
мастак па ляльках
livemaster.ru/500-eskimo




# Мастацтва пап'е-машэ

Тэкст, фота: Nadine Pau

*Ад елачных цацак мастачкі з Санкт-Пецярбурга Nadine Pau не адвесці вачэй. Мы запыталіся ў аўтаркі гэтых казачных цацак пра тэхніку іх стварэння і пра тое, як нараджаюцца неверагодныя вобразы ў яе творчасці.*

Творчасць – мая прафесія, нават калі я не за сталом ці мальбертам – праца працягваецца. Ідэі чэрпаю паўсюль: я іх бачу, запамінаю, замалёўваю.

Я працую ў двух напрамках: інтэр'ерная маска і елачная цацка, таму час справядліва дзялю пароўну.

Некалькі гадоў таму прыйшло разуменне, што елачныя цацкі – гэта гісторыі, якія распавядае маленькая дзяўчынка, што жыве ўва мне дагэтуль: янаназіральная і вясёлая, ёй падабаюцца ўласныя казкі, яна бачыць свет інакш. У сваю чаргу, маскі – гэта мая "дарослая" частка.

Мяне натхняюць мае дзіцячыя ўспаміны і, вядома, прырода, ва ўсім яе чароўным і гарманічным выглядзе. Ці то гняздзечка, звітае ў кусце парэчкі, ці неверагодны па колеры заход сонца. Гэтыя бясцэнныя крыніцы вельмі глыбокія і невычарпальныя.

Мае цацкі няпростыя ў выкананні, і яны валодаюць сваім характарам, сваім светам, іроніяй і цяплом... Яны героі казкі, якую я распавядаю без словаў.

Больш за сем гадоў я працую ў класічнай тэхніцы пап'е-машэ.



## Гэта цікава

**Пап'е-машэ** (фр. papiermâché, літаральна "пержаваная папера") – маса, якая лёгка паддаецца фармоўцы, яна атрымліваецца з сумесі паперы і кардону з клейкімі рэчывамі (крухмалам, гіпсам і г.д.).

Нягледзячы на французскую назву, радзімай пап'е-машэ лічыцца Кітай, дзе і была вынайдзена папера. Першыя прадметы з пап'е-машэ былі знойдзены пры раскопках у Кітаі, гэта былі старажытныя даспехі і шлемы. Для надання ім калянасці ўжывалі шматслаёвае пакрыццё лакам.

- Першым крокам я ствараю нарыхтоўку будучай цацкі з пластыліну.

- Затым, крок за крокам, абклейваю нарыхтоўку кавалачкамі ірванай паперы пры дапамозе клею. Такіх пластоў можа быць да 10. Такім чынам атрымліваецца форма з пап'е-машэ.

- 95% маіх формаў з пап'е-машэ – гэта папера з невялікім дамешкам гіпсу, часам дадаю кавалачак тэкстылю ці металу.

- Пасля высыхання, на якое адводзіцца да пяці сутак, разразаю форму пры дапамозе вострага нажа, дастаю пластылін, склейваю форму, шліфую, дадаю дэталі. Затым грунтую, шліфую і зноў грунтую. Пасля падрыхтоўкі формы, кожная з якіх унікальная, я пачынаю складаны жывапіс тэмпрай, або алеем. Затым ідзе чарга патынавання, і зноў жывапіс.

- Часцей пішу праз пласты лаку. Фінальныя лакіроўкі таксама робяцца ў шмат этапаў, выкарыстоўваю для гэтага адрозныя па бляску лакі. У фінале не забываюся на ўпакоўку: у кожнай маёй працы ёсць свая скрынка, адпаведная па памеры.

**Мой рэцэпт** просты: у любой тэхніцы, з любымі матэрыяламі можна рэалізаваць што заўгодна, самыя смелыя фантазіі. Трэба толькі адчуць матэрыял, зразумець яго магчымасці, паэксперыментаваць, зрабіць дзясятак тэстаў, і ўбачыць, хто з герояў просіцца ў рукі, як яго завуць, хто ён?

**Разуменне персанажу** вельмі істотны этап у працы. Практыкуючы, даследуючы матэрыял, неабходна запамінаць свае знаходкі, яны могуць быць зусім нечаканымі, незвычайнымі – так нараджаецца ўнікальнасць. Пачаўшы новую працу, трэба імкнуцца стварыць яе крыху лепш за папярэднюю, няхай гэты плюс будзе невялікім, але ён будзе – так дасягаецца творчы рост. Любы матэрыял захоўвае ў сабе мільён нерэалізаваных ідэй. Папера ці тканіна, палатно ці камень – паўсюль ёсць тое, што ўжо просіцца ў свет. **Матэрыялізуючы задуманае са стараннасцю, увагай і радасцю – з'яўляецца мастак.**











**Карысная інфармацыя:**
Nadine Pau, мастак
vk.com/club17770837
facebook.com/nadinepau

*Ёсць асаблівае хараство ва ўбранні навагодняй елкі. Упрыгожаная сотнямі агеньчыкаў, прыбраная ў бліскучыя шары і пацеркі, яна заклікае забыцца на ўсе непрыемнасці, вяртаючы нас у бесклапотнае дзяцінства. Бадай, самыя галоўныя героі навагодняга свята, без якіх не абыходзіцца ніводная ўрачыстасць – гэта елачныя цацкі. Зусім новыя, набытыя толькі што, прывезеныя з далёкіх вандровак або старадаўнія, пацалаваныя часам, – сёння яны ўжо сталі неад'емным сімвалам свята і нават прадметам калекцыянавання.*

А пачыналася гісторыя елачнай цацкі шмат стагоддзяў таму. Паводле адной з легендаў яшчэ ў XVI ст. у Саксоніі з'явіліся першыя шкляныя елачныя цацкі. Другое паданне звязвае іх з'яўленне з неўраджаем яблыкаў у Германіі ў 1848 годзе. Тады шкловыдзімальшчыкі ў мястэчцы Лаўша ў Цюрынгіі стварылі замест сапраўднай садавіны шкляныя "яблыкі", і з поспехам распрадалі іх, што і стала пачаткам рэгулярнай вытворчасці такіх упрыгажэнняў да свята.

Невыпадкова менавіта Германія лічыцца першай еўрапейскай краінай, дзе на Каляды сталі ўпрыгожваць елку. Пры гэтым прыбранае дрэва можна было ўбачыць абсалютна ў кожнай нямецкай хаце.

Яшчэ ў казцы Гофмана "Шчаўкунок і Мышыны кароль" мы сустракаем апісанне вытанчанай каляднай елкі, галінкі якой былі ўпрыгожаны залатымі і срэбнымі яблыкамі, цукровымі арэхамі, пасцілой і цукеркамі.
Паступова гэтая прыгожая традыцыя распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе. У Расіі елка з'явілася напрыканцы XVII ст, калі Пётр I па вяртанні з Еўропы перанёс святкаванне Новага году з 1 верасня на 1 студзеня і выдаў указ упрыгожваць хваёвымі галінкамі вуліцы, дарогі і дамы.

Аднак неўзабаве пасля яго смерці гэтая традыцыя забылася, але ўжо на пачатку XIX ст. цікаўнасць да ўпрыгожвання елак узнікла наноў. Першыя калядныя елкі з'яўляліся ў заможных дваранскіх сем'ях, але крыху пазней і багатыя прадстаўнікі сярэдняга класу, купцы, банкіры, дактары і адвакаты падтрымалі гэты звычай. А да пачатку XX ст. каляднае дрэва з'явілася амаль што ў кожным доме.

Для ўпрыгожвання першых елак часцей за ўсё выкарыстоўваліся ядомыя "цацкі": цукеркі, фігурныя пернікі, арэхі, загорнутыя ў залатую і срэбную фальгу, садавіна. Набыць "сапраўдныя" елачныя ўпрыгожванні было няпроста – прывезеныя цацкі каштавалі вельмі дорага, нятанна абыходзіліся і свечкі для елак. Напярэдадні Калядаў вітрыны сталічных магазінаў блішчэлі неверагодным елачным убранствам, якое, на жаль, было недасяжным для большасці жыхароў горада. З-за таго, што раней елкі ў дамах усталёўвалі менавіта да Калядаў, першапачаткова і самі цацкі, і іх размеркаванне на галінках утрымлівалі ў сабе рэлігійны евангелічны падтэкст. Так верхавіну дрэва звычайна ўпрыгожвала Віфлеемская зорка, а крыжавіна ля падножжа елкі сімвалізавала распяцце і пакуты Ісуса Хрыста. Крылатыя анёлы былі сімвалам чысціні, гірлянды і пацеркі ўвасаблялі неўміручасць, а сцяжкі па суседстве з імі абазначалі барацьбу за веру. Нярэдка ў падножжы елкі размяркоўвалася і невялічкая батлейка – цацачная пячора са святым сямействам.

Вельмі часта елачныя цацкі жыхары дома майстравалі самастойна. Напярэдадні Калядаў разам з блізкімі ці гувернанткамі дзеці бавілі шмат часу за вырабам зорак і сняжынак, шыццём маленькіх мяшочкаў для падарункаў ці склейваннем папяровых кошыкаў, якія потым былі напоўненыя прысмакамі.

На фабрыках цацкі вырабляліся з пап'е-машэ, воску, кардону і шкла. Апошнія, як правіла, прывозіліся з Германіі і каштавалі вельмі дорага. Мець хаця б адну такую цацку на елцы лічылася вельмі прэстыжным, а па агульнай колькасці шкляных упрыгожванняў можна было лёгка судзіць пра ўзровень прыбытку той ці іншай сям'і. Асаблівай любоўю сярод дзетак вылучаліся "ядомыя" цацкі: пернічныя домікі і ўпрыгажэнні са слаёнага цеста. Анёлкаў, гномікаў, фігуркі дзяўчынак і хлопчыкаў звычайна рабілі з цукру, ледзяшоў, карамелі і шакаладу. Менавіта гэтае салодкае ўбранне і надавала елцы непаўторны святочны водар, апісанне якога так часта можна сустрэць на старонках старадаўніх кніг.

Традыцыя ўпрыгожваць елкі электрычнымі гірляндамі ўзнікла параўнальна нядаўна – на мяжы XIX і XX стагоддзяў. Праўда, яны былі настолькі дарагімі, што дазволіць іх сабе маглі толькі вельмі заможныя людзі і часцей за ўсё бралі напракат.

Пасля рэвалюцыі 1917 года елачныя цацкі, як і сама традыцыя калядных елак, паступова трапілі пад забарону. Каляды назаўжды зніклі з савецкага святочнага календара, закрыліся елачныя базары, з магазінаў былі канфіскаваныя ўсе елачныя цацкі, спынілася іх вытворчасць, а паставіць елку ў сваім доме нават было забаронена. Тым не менш, елкі ўпотай seклі ў лясах і прыносілі ў гарадскія кватэры.

Часам за нястачай елак людзі аздаблялі тое, што магло хоць неяк іх замяніць, напрыклад, фікусы ў гаршчках, бегонію ці алоэ. Елачныя цацкі хавалі і ашчадна захоўвалі як самы каштоўны скарб.

На шчасце, забарона цягнулася нядоўга, і ўжо ў 1936 годзе савецкія ўлады вярнулі калядную елку, якая набыла статус навагодняй. Так пачалася ўжо новая старонка ў гісторыі гэтага чароўнага прадмета – савецкай елачнай цацкі. Але гэта ўжо тэма для асобнай размовы.





# Год снежнем канчаецца, зіма пачынаецца

Ілюстрацыя: Яна Бунцэвіч

# Зіма ў горадзе

Ў зімовым горадзе вельмі ўтульна: стрэхі дамоў, дрэвы і ліхтарныя слупы захутаныя свежым пухнатым сняжком, іскрыстыя сняжынкі пераліваюцца ў промнях штучнага святла, а мароз мудрагеліста распісвае вокны шматпавярховікаў. Горад з дэкарацыяў нашай фотаздымкі менавіта такі – тут хочацца сустракацца з сябрамі, прызначаць спатканні, хавацца ад марозу ў кавярні і гуляць, гуляць, гуляць... доўга-доўга гуляць па беласнежных вуліцах. Так што апранайцеся пацяплей і далучайцеся!

# 3D-паштоўка (Pop Up Card)

•пакрокавая інструкцыя ад Аліны Крусс •



**Матэрыялы і інструменты, якія спатрэбяцца:**
• 2 аркушы шчыльнай паперы;
• просты аловак;
• лінейка (лепш жалезная);
• канцылярскі нож;
• пілачка для пазногцяў/тупое лязо канцылярскага нажа/непрацоўная асадка або любы іншы нявостры прадмет для працiскання;
• клей.

☑ У якасці паперы рэкамендую выкарыстоўваць ватман, любую паперу для чарцяжоў ці шчыльную каляровую (папера для прынтара не падыдзе). Я выкарыстоўвала фармат А4, але можна абраць і іншы (больш малы не мае сэнсу, бо будзе складана акуратна выразаць).
☑ Клей неабходны, калі плануецца прыклейваць да паштоўкі дэталі і аснову. Дзякуючы гэтаму паштоўка набудзе акуратны і закончаны выгляд.

**1.** Раздрукуйце шаблон (калі друкаваць на тонкай паперы, то давядзецца перачарціць яго на шчыльную).

**2.** Прарэжце суцэльныя лініі, выражце акенцы.

**3.** Працісніце пункцірныя лініі. Каб папера не камячылася і не дэфармавалася, праціскаць неабходна з аднаго боку, у які мусіць "выпіраць" выгіб, то бок праціскаць згіны ўнутр неабходна са сподняга боку.

**4.** Акуратна сагніце дэталі па лініях згіну. Рэкамендую спачатку кожную дэталь адгінаць ледзьледзь, каб не парваць і не пакамячыць паперу. Не варта спяшацца і завіхацца!

**5.** Можна дадаць дэталі:
• аконныя перамычкі (тонкія (<2 мм) палоскі паперы, што клеяцца са сподняга боку),
• гурбы, елку, снегавіка.

**Звярніце ўвагу!**
Каб прыклеіць дэталі, неабходна пры выразанні дадаць знізу клапан-аснову, на якой яны будуць стаяць (яго таксама неабходна працiснуць, каб ён добра згінаўся).

**6.** Каб атрымалася аснова для паштоўкі, вазьміце новы аркуш і працісніце папярочную лінію пасярэдзіне. Складзіце, прыклейце паштоўку да асновы.

**7.** Упрыгожце паштоўку па сваім жаданні (зоркі, аблокі, канфеці).

**Звярніце ўвагу!**
*Шаблон pop-up паштоўкі ад Аліны Крусс можна спампаваць у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by*

**Матэрыялы і інструменты, якія спатрэбяцца:**

• 2 аркушы шчыльнай паперы;
• просты аловак;
• лінейка (лепш жалезная);
• канцылярскі нож;
• пілачка для пазногцяў/тупое лязо канцылярскага нажа/непрацоўная асадка або любы іншы нявостры прадмет для праціскання;
• клей.

☑ У якасці паперы рэкамендую выкарыстоўваць ватман, любую паперу для чарцяжоў або шчыльную каляровую паперу (папера для прынтара не падыдзе). Я выкарыстоўвала фармат А4, але можна выбраць і іншы (меней не варта, калі дэталі плануюцца дробнымі – будзе складана акуратна выразаць).

**1.** Знайдзіце ўпадабаную вамі выяву горада.

**2.** Вызначце колькасць пластоў паштоўкі, напрыклад:
• 1-ы пласт (задні план): неба;
• 2-і пласт: план з дрэвамі, гарамі і г.д.;
• 3-і пласт: план з архітэктурай;
• 4-ы пласт (пярэдні план): лаўкі, ліхтары, масткі, гурбы.
Колькасць пластоў залежыць ад вашага жадання і можа быць любым.

**3.** Начарціце і выражце кожны план на новым аркушы паперы, пакідаючы па 1 см з кожнага боку і знізу для склейкі.

**4.** На новых аркушах начарціце неабходную колькасць рамак таўшчынёю па 1 см, выражце.

**5.** Да кожнай рамкі з задняга боку прыклейце па адным пласце (плане).

**6.** Зрабіце нарыхтоўкі для склейкі рамак – па дзве для кожнай.

**7.** Прыклейце нарыхтоўкі да рамак.

**8.** Паштоўку можна ўпрыгожыць на свой густ, прыклейваючы да верхняй рамкі аблокі, птушак, сцяжкі і пад.

**Звярніце ўвагу!**
*Шаблон pop-up паштоўкі ад Аліны Крусс можна спампаваць у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by*

**Матэрыялы і інструменты, якія спатрэбяцца:**

- шчыльная папера;
- лінейка (лепей жалезная);
- канцылярскі нож;
- клей (ПВА ці клей-аловак).

**1.** Начарціце эскіз або раздрукуйце шаблон і акуратна выражце яго нажніцамі ці канцылярскім нажом.

**2.** Прарэжце ў шаблоне вокны. Выразаючы дзвярны праём, пакіньце некранутым адзін бок і адагніце яго. Па лініі згіну сценак правядзіце тупым бокам нажа (непрацоўнай асадкай і пад.) Калі складана выразаць аконныя рамы (надта дробныя), то можна нарэзаць палоскі ў 2 мм і прыклеіць іх знутры.

**3.** Склейце дом і замацуйце дах, калі гэтая дэталь выразаецца асобна ў вашым шаблоне (эскізе).

**4.** Канструкцыю дома можна ўскладніць, дадаўшы ганак, гаўбец, упрыгожыўшы дах чарапіцай, дадаўшы комін і гэтак далей.

**Звярніце ўвагу!**
*Шаблон ад Аліны Крусс можна спампаваць у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovaktmag.by*

**Карысная інфармацыя**
Аліна Крусс, дызайнер, архітэктар
vk.com/deerroe
instagram.com/linakruss

# Брошка-кветка. Вяжам кручком

*У вобраз дзяўчыны выдатна ўведзеныя вязаныя брошкі. А майстар Наталля Хлапкова расказала нам, як іх звязаць. Схема вязання дастаткова простая. Вязаць можна з прадзіва любой якасці: чым танчэйшае прадзіва, тым больш вытанчанай атрымаецца кветка.*

**З матэрыялаў і інструментаў спатрэбяцца:**

- прадзіва,
- кручок,
- нажніцы,
- іголка,
- аснова для брошкі.

• Для пачатку правязваем ланцужок з паветраных пяцелек. Звычайна я набіраю 52 пятлі.

• Вяжам згодна са схемай.

• Калі закончылі вязаць, атрымаецца своеасаблівая "спружынка". Абразаем нітку на адлегласці 20-30 см ад краю вязання.

• Пачынаем заварочваць кветку ад краю з доўгім хвосцікам ніткі, якія пакідаем з асноўнага боку брошкі.

• Пасля таго, як завернем кветку, прасоўваем нітку ў іголку і пратыкаем кветку наскрозь, замацоўваючы петлі першага раду. Такім чынам "праходзім" па ўсёй кветцы, дужа не зацягваючы.

• Замацоўваем край вязання. На гэтым этапе можна прышыць у сярэдзіну кветкі пацерку.

• Прышываем аснову для брошкі, я раю для гэтага выкарыстоўваць круглую аснову.

**Брошка гатовая!**




○ - паветраная пятля
\+ - слупок без накіду
Ŧ - слупок з накідам

**Карысная інфармацыя:**
Наталля Хлапкова, майстар
facebook.com/natalija.khlopkova

**Ідэя:** ALOVAK

**Стыль здымкі, дэкор, арганізацыя:** Юлія Трафіменка

**Фота:** Андрэй Дубінін

**Стыліст адзення:** Лена Лосева

**Папяровыя дэкарацыі:** Аліна Крусс

**Мадэлі:** акцёр і музыкант Алег Арт, актрыса Анастасія Кліменка

**Макіяж:** Алена Чарнова

**Прычоскі:** Ната Мушкоўская

**Лакацыя:** Цэнтр фатаграфіі Studio67

**Паліто на мадэлях:** ZIBRA

*Дыпламаваны ілюстратар Наталі РАТКОЎСКІ нарадзілася ў Расіі, але вось ужо каля 20 гадоў жыве і працуе ў Германіі, дзе дасягнула вялікіх вышынь у галіне графічнага дызайну і ілюстрацыі. Сярод кліентаў Наталі – Студыя Арцемія Лебедзева, часопісы VOGUE, Maxim, кампаніі Milky Way, Samsung і інш.*

*Мы сустрэліся з Наталі падчас яе візіту ў Мінск і пагаварылі з мастачкай аб працы і захапленнях, аб тым, як усё паспяваць і не перагараць, як сфармаваць свой стыль, дзе знаходзіць натхненне і як маладому мастаку пабудаваць паспяховую кар'еру.*

Тэкст: Кацярына Буто
Фота: Марыя Сонгаль, а таксама з архіва героя
Пытанні задавалі: Кацярына Буто, Надзея Зімірава

## Пра адукацыю і працу па спецыяльнасці

***У чым асаблівасць творчага шляху мастака ў Заходняй Еўропе?***

У Германіі, дзе я жыву і працую ўсё свядомае жыццё, сістэма адбору пры паступленні ў творчыя ВНУ даволі жорсткая. Каб паступіць у большасць універсітэтаў дастаткова адзнак выпускных школьных экзаменаў. Але! Калі гэта не спецыяльнасць юрыста, лекара і ... графічнага дызайнера і ілюстратара (смяецца). З апошнім, вядома, не ўсё так строга, але ў свой час мне трэба было атрымаць спачатку допуск да іспыту – падаць на разгляд папку з трыццаццю малюнкамі фармату А1. Пасля першага адборачнага тура ў мяне быў яшчэ адзін экзамен, пасля якога я прайшла, а некаторым абітурыентам прыйшлося здаваць яшчэ два ці тры. Затое потым, падчас вучобы, у студэнтаў з'яўляецца шмат магчымасцяў заявіць пра сябе і завязаць карысныя знаёмствы. Да прыкладу, у ВНУ часта выкладаюць толькі людзі з імем, на розныя мерапрыемствы запрашаюць спецыялістаў з вядомых выдавецтваў, а ў канцы кожнага семестра праходзяць выставы студэнцкіх работ з удзелам прэсы. Шмат хто з прафесараў і выкладчыкаў маюць уласныя агенцтвы, у якія можна трапіць на працу.

***Першую вышэйшую адукацыю ты атрымала ў тэхнічнай ВНУ. Наколькі спатрэбілася яна ў працы?***

Увесь час, што я працавала ў Германіі ў галіне дызайну, а гэта больш за 15 гадоў, я якраз спалучала дзве свае спецыяльнасці – тэхнічную і мастацкую. Асноўнай сферай маёй дзейнасці было афармленне інтэрфейсаў для праграмнага забеспячэння. Нават мая першая камерцыйная праца складалася ў ілюстраванні казак па фізіцы і матэматыцы для вядомых аўтараў сістэмы хатняга навучання Вольгі Собалевай і Васіля Агафонава (metodika.ru).

***Ёсць нямала людзей, якія задумваюцца аб тым, каб кінуць працу па спецыяльнасці і сысці з галавой у творчасць. Як зразумець, што вось ён – момант ісціны?***

Такога моманту няма. Ёсць запас сіл, які знікае. Таму важна прымаць рашэнне паступова – рыхтаваць урадлівую глебу для будучыні. Чаму я ў свой час вырашыла сысці з працы і прысвяціць сябе таму, што

прыносіць не толькі грошы, але і задавальненне? У мяне быў тыл: сталыя кліенты і падтрымка мужа. А яшчэ дакладнае ўяўленне таго, што я рабіць больш не хачу. Плюс мне было важна ведаць, што нават калі ў мяне нічога не атрымаецца, мы не застанемся на вуліцы. Кінуць усё ў адзін момант могуць толькі тыя, хто наогул не мае патрэбы ў грошах. Я ўжо два гады як прадпрымальнік, але да гэтага часу асноўная крыніца майго даходу – дызайн праграмных дадаткаў. Мой былы працадаўца, з якім мы палюбоўна рассталіся, – мой галоўны заказчык. Калі я сыходзіла з працы, у мяне зусім не было ілюзій, што ўсе толькі сядзяць і чакаюць, калі я прыйду са сваімі малюнкамі. У кнігах той жа Барбары Шэр, вядомага коўча па дасягненні мэтаў, пастаянна гучыць гэтая думка – спрабуйце свае сілы паступова. Паліць масты – гэта небяспечна.

***А як ты ставішся да сумяшчэння прафесій?***

Вельмі станоўча. На мой погляд, асабліва той, хто адчувае сябе "чалавекам свету", павінен мець як мага больш інтарэсаў. Гэта дапамагае больш плённа працаваць у любой сферы. Я згодна з меркаваннем вядомага дызайнера шрыфтоў, прафесара Эрыка Шпікермана (Erik Spiekermann), у якога я брала інтэрв'ю для сваёй новай кнігі с працоўнай назвай "Пагаворы з мастаком", што чым больш у чалавека адукацый, тым лепш ён будзе разумець свае прафесійныя задачы і знаходзіць агульную мову з людзьмі.

*"Важна прымаць рашэнне паступова – рыхтаваць урадлівую глебу для будучыні"*



## Пра поспех і прасоўванне

***Як маладому мастаку стаць паспяховым?***

На гэтае пытанне не так лёгка адказаць, таму што поспех творчага чалавека вымяраецца не толькі грашыма. Хоць, вядома, яны вельмі важныя для ўнутранага спакою і для таго, каб чалавек працягваў займацца тым, чым хоча, каб развіваць сябе. Але матэрыяльнае не павінна быць вырашальным. Лепш не дазваляць грашам дыктаваць мастаку, што рабіць.

Для дасягнення поспеху існуюць розныя сцэнарыі. Як я ўжо згадвала, яшчэ са студэнцтва ў мастака могуць завязацца карысныя кантакты. Важна і само месца навучання. Мастачка Зоя Чаркаская-Ннадзі (Zoya Cherkassky-Nnadi) распавяла мне ў інтэрв'ю для вышэйзгаданай кнігі, што ў Ізраілі яна мэтанакіравана пайшла вучыцца ў лепшы ВНУ краіны. Калі Зоя абараняла дыплом, яе заўважыла буйная галерэя краіны, і тут жа кар'ера мастачкі пайшла ў гару. Для гэтай кнігі я гэтак жа адмыслова шукала і знайшла цэлы шэраг рэйтынгаў лепшых універсітэтаў свету, якія складаюцца па цэлым шэрагу крытэрыяў. Напрыклад, так званы Шанхайскі рэйтынг, у якім знаходзяцца і творчыя ВНУ з сусветным імем.

Яшчэ немалаважна пастаянна мець зносіны з калегамі, быць у коле творчых людзей, сярод тых, у каго можна атрымаць патрэбную інфармацыю. Кажуць, што поспех часта прыходзіць да тых, хто аказваецца ў патрэбны момант у патрэбным месцы. Але і самому важна пастарацца, калі ўжо выпадае шанец. Напрыклад, у мяне была даволі паспяховая выстава ў мінулым годзе. Адна знаёмая спытала мяне, як жа я трапіла туды. На мой адказ, што мяне парэкамендавалі, здзівілася: "А-а-а, дык цябе не адкрылі!?", быццам маёй заслугі тут зусім не было. Але ж атрымаць рэкамендацыю яшчэ мала. Трэба было сустрэцца з галерысткай, пераканаць яе ў тым, што мае працы падыходзяць, упарта працаваць больш за паўгода і выставіць свае працы. Калі табе даюць шанец, да яго трэба быць гатовым. Павінны быць напрацоўкі, адпаведнае партфоліа.

***Якія супольнасці, пляцоўкі ў інтэрнэце, дзе можна выстаўляць свае работы, ты б параіла мастакам?***

Вядомы шмат каму behance.net – прафесійная платформа для творчых людзей; супольнасць для графічных дызайнераў dribbble.com; той жа pinterest.com. "Засвяціцца" можна і на такіх праектах, як inktober.com, illustrationfriday.com. Такія пляцоўкі не столькі дапамагаюць знаходзіць кліентаў, колькі распаўсюджваць сваю творчасць і дэманстраваць прафесіяналізм. У выніку ёсць даволі вялікая верагоднасць, што праз гэтыя платформы прыйдуць і заказчыкі.

*"Калі чалавек пачынае падладжвацца пад меркаванне мас і працуе толькі на публіку – ён перастае быць тым, кім ён з'яўляецца насамрэч"*



***А што наконт сацыяльных сетак?***

Балючая тэма. З аднаго боку, сацсеткі дапамагаюць заявіць пра сябе, спрыяюць прасоўванню. Раней у мастакоў не было такой выдатнай магчымасці. Каб пра цябе даведаліся, трэба было мець, як кажуць у Германіі, вітамін B – вітамін Beziehung – сувязяў: трапіць для пачатку ў прэстыжныя галерэі або агенцтвы. А зараз творчы чалавек можа быць сам сабе агентам. Напрыклад, у мяне сувязей ці людзей, якія б мяне прасоўвалі, не было. Сваім поспехам я абавязана не ў апошнюю чаргу інтэрнэту. Праз яго людзі даведаліся ў свой час пра мяне і мае кнігі. Я малявала, выказвалася, паказвала свае камерцыйныя работы, пісала пра побыт мастака. Чытачам падабалася мая творчасць.

Аднак, трэба памятаць, што калі страляеш са стрэльбы, яна абавязкова б’е па плячах. У сацсетках гэты “удар” зводзіцца да таго, што мастаком так ці інакш пачынае кіраваць грамадская думка. Спрабуючы паўтарыць уласныя поспехі, мастак пачынае публікаваць толькі тое, што хутчэй за ўсё ўхваляць іншыя, і ўжо баіцца дзяліцца рэчамі, за якія даюць менш “лайкаў”. Звяртаецца да праверанага, таго, што гарантавана прынясе добрыя водгукі. Як вынік, чалавек апынаецца ў стане ўнутранага застою. Такая самацэнзура, абумоўленая ўплывам звонку, вельмі згубная. Мастак займаецца ў выніку раскруткай сваіх акаўнтаў у сацсетках замест працы і асабістага развіцця.

Калі хочацца папулярнасці, то тады ўжо лепш завесці акаўнты на ўсіх патрэбных платформах, публікавацца і не зазіраць лішні раз у каментарыі і лайкі, таму што гэта цісне на псіхіку – хоць шмат водгукаў, хоць мала. Калі чалавек пачынае падладжвацца пад меркаванне мас і працуе толькі на публіку – ён перастае быць тым, кім ён з’яўляецца насамрэч.

## Пра сутнасць ілюстрацыі

***Ілюстрацыя – гэта мастацтва ці рамяство?***

Заўсёды гэта было рамяством – працай, якая карміла. Мастацтва дзеля мастацтва ўзнікла толькі з індустрыялізацыяй, у канцы XIX стагоддзя. Тыя ж мастакі-імпрэсіяністы былі ў большасці сваёй людзьмі дастаткова заможнымі і не працавалі на заказ. У ілюстрацыі рамяство наогул павінна быць на першым плане. Ілюстратар працуе ў аднрй запрэжцы з аўтарамі, дызайнерамі, арт-дырэктарамі – задавальняе чужыя патрабаванні з улікам сваіх думак і здольнасцяў. Нават калі я ствараю станковую ілюстрацыю, то павінна элементарна валодаць тэхнікай – ведамі і рамеснымі навыкамі, інакш я проста не змагу адлюстраваць тое, што хачу.

***Гогаль ў свой час адмовіўся ад ілюстрацый Аляксандра Агіна да "Мёртвых душ", патлумачыў гэта навязваннем чытачу вобразаў. Пры гэтым, у адным з лістоў сябру Плятнёву, напісаў, што можна "дапусціць празмернасць гэтых родаў толькі ў такім выпадку, калі яно занадта мастацкае. Але мастакоў-геніяў для такой справы не знойдзеш". Ці згодна ты з меркаваннем пісьменніка?***

Гэта няпростая тэма, і я разумею Гогаля. Аўтар – мастак слова. Ён ужо напісаў сваю карціну – сваю гісторыю. Інтэрпрэтацыя створанага ім вобраза іншым чалавекам – гэта скажэнне той рэальнасці, якую прыдумаў аўтар. У любой праілюстраванай кнізе два аўтары – той, хто напісаў яе, і той, хто намаляваў. Па сутнасці, гэта дзве паралельныя гісторыі (пра што чытач часта цалкам не падазрае). З аднаго боку, ілюстрацыя – гэта адлюстраванне таго, што апісана ў кнізе. Тым не менш, мастак – гэта зусім іншы чалавек, і напісаны тэкст кожны разумее па-свойму. Калі няма кантакту з аўтарам, мне як ілюстратару часта застаецца толькі меркаваць, што яму магло б спадабацца. Калі аўтар непахісны і пачынае дыктаваць свае ўмовы, гэта пазбаўляе індывідуальнасці ілюстратара. Таму ў працы над кнігамі, аўтары якіх яшчэ жывыя, часта ўзнікаюць спрэчкі. Мне імпануе меркаванне Умберта Эка, які казаў, што свае кнігі ён выпускае з рук, яны сыходзяць у людзі і жывуць сваім жыццём. Пісьменнікі павінны разумець, што ілюстратары – гэта сааўтары і даваць ім больш свабоды. Тады можа і ў сур'ёзных дарослых кнігах з'явяцца ілюстрацыі, мне вельмі шкада, што цяпер іх там няма.

*"Пісьменнікі павінны разумець, што ілюстратары – гэта сааўтары"*

## Пра стыль працы

***Наколькі важна ілюстратару мець свой стыль?***

Мне блізкае меркаванне вядомага мастака-ілюстратара Генадзя Уладзіміравіча Каліноўскага, у якога да кожнага твора быў індывідуальны падыход. Ён лічыў, што характар адной кнігі патрабаваў акварэльнай тэхнікі, іншая кніга "прасіла" больш стрыманых, графічных ілюстрацый. Але, напрыклад, у Заходняй Еўропе людзі аддаюць перавагу кнігам з вядомымі ілюстрацыямі. У кожнага выдавецтва ёсць свой "рэпертуар" кніг і пастаянныя мастакі, якія ілюструюць кнігі ў адной і той жа, уласцівай ім манеры. Нават існуе патрабаванне для ілюстратараў, якія хочуць супрацоўнічаць з пэўным выдавецтвам: калі хочаце даслаць нам работы, трэба ўпэўніцца, ці адпавядаюць яны нашаму густу і праграме, паглядзіце на ўжо выдадзеныя намі кнігі. Калі мастак хоча быць камерцыйна паспяховым, ён павінен разумець, што яму, магчыма, прыйдзецца нечым ахвяраваць, каб стаць пазнавальным, у дадзеным выпадку вельмі тонкім падыходам да ілюстравання твораў. Таму многія мастакі-ілюстратары імкнуцца абраць спецыялізацыю і працаваць у нейкім адным кірунку: развівальныя кнігі, казкі, апавяданні пра прыроду і інш.

***Як жа выпрацаваць свой стыль?***

А яго трэба не ВЫпрацоўваць, а НАпрацоўваць. Стыль – індывідуальны почырк – ёсць у кожнага мастака з нараджэння. Кім бы вы ні захапляліся, калі прапускаеце праз сябе што-небудзь, то атрымліваеце на выхадзе працу сваім почыркам. Гэта як глядзець на друкаваны тэкст і перапісваць яго ад рукі. Іншая справа, што змест "тэксту" таксама павінен быць індывідуальным, да чаго варта імкнуцца. Свой стыль выпрацоўваецца плённай і працяглай працай. Чым больш малюеш і ствараеш вобразаў, чым больш уражанняў успрымаеш, тым больш верагоднасць таго, што пазнавальны стыль выявіцца хутчэй. Я сама доўга скардзілася, што мяне раздзірае на часткі ад магчымасцяў, так шмат тэхнік я выкарыстоўваю ў працы: і акварэль, і гуаш, і акрыл, і праца на кампутары. Пакуль мяне не супакоілі, што маю "руку" відаць у любой тэхніцы.

***У прадмове да кнігі "Прафесія-ілюстратар" ты кажаш, што поспех добрай ілюстрацыі – у яе вастраслоўі. Няўжо гэтаму можна навучыцца?***

У прынцыпе, так. Большасць жартаў мае выразную структуру. Напрыклад, многія грунтуюцца на недастатковым разуменні, калі чалавека наўмысна ўводзяць у зман, а потым "раскрываюць" вочы са словамі: "А ты што падумаў?" Ёсць пэўныя прыёмы пабудовы жарта, а значыць гумар і сатыру на самай справе можна канструяваць. Зразумела, што існуе такая рэч, як харызма, але гэтага не заўсёды дастаткова. Самі камедыянты часта прызнаюцца, што тэксты для выступаў ім пішуць іншыя людзі. Ілюстратар можа і нават павінен прыдумаць, як зрабіць працу дасціпнай або цікавай. Для гэтага трэба планаваць і старанна абдумваць сюжэт, задаваць сабе розныя пытанні. Напрыклад, што за сітуацыя, як яе можна адлюстраваць невідавочна, ці існуюць жарты або ідыёмы з гэтай нагоды ды інш.

*"Стыль – індывідуальны почырк – ёсць у кожнага мастака з нараджэння"*

## *Пра захапленні і час*

***Якія захапленні ёсць у Наталі Раткоўскі акрамя ілюстрацыі?***

У асноўным мае захапленні так ці інакш звязаныя з маёй прафесіяй. Пераношу ілюстрацыю з плоскасці ў аб'ём з дапамогай пап'е-машэ або керамікі. Люблю шыць. З задавальненнем афармляю свой дом і займаюся садаводствам. Люблю закопвацца ў генеалогію, адкрыцці ў свеце навукі. Вельмі падабаецца вывучаць мовы (валодаю расейскай, нямецкай, зусім няшмат італьянскай). У мінулым годзе вывучыла базавую англійскую і цяпер паглыбляю свае веды. Калі пачала разумець на ёй жарты і ідыёмы, мне быццам адкрыўся новы ўзровень жыцця.

***Дзе ж знаходзіць час на захапленні?***

Тая ж кераміка ў мяне была ў студыі для мастакоў кожныя два тыдні па чацвяргах. Дакладны расклад патрабаваў, каб я збіралася ды ішла, інакш аб'екты засталіся б без абпалу. Ды і дома асабліва з глінай не папрацуеш. Для мяне працуюць толькі жорсткія рамкі, і я стараюся іх прытрымлівацца. Мне патрэбен хтосьці, хто спытае, чаму я не прыйшла ці не зрабіла. Трэба несці адказнасць перад кімсьці. Асабіста ў мяне няма жалезнай сілы волі, каб прымушаць сябе рабіць нешта проста так.

***Яшчэ адно балючае пытанне творчых людзей: як у прынцыпе ўсё паспяваць?***

Многія людзі карыстаюцца цяпер дапамогай асістэнтаў. Мне неяк прапаноўвала дапамогу адна дзяўчына, але я "кантроль-фрык" і не змагла выпусціць з рук свае абавязкі. Я лепш буду менш паспяваць, але буду рабіць сама. Прынамсі, у творчай працы. Для сябе я вывела такі просты рэцэпт – трэба ўсё рабіць паступова, маленькімі крокамі. Напрыклад, калі я задумала напісаць вялікі тэкст, то перш за ўсё збяру неабходную інфармацыю, у другі дзень падрыхтую ўсё фатаграфіі. Потым ужо сяду пісаць тэкст. Наступным крокам будзе ўставіць карцінкі ў пост. Гэтая пакрокавая праца вельмі палягчае жыццё. Каб прывучыць сябе працаваць паступова, трэба разбіваць задачу на дробныя падзадачы і вырашаць іх паслядоўна. І не палохацца перад "сцяной" разлікаў, колькі гадзін, дзён ці месяцаў спатрэбіцца для выканання чагосьці. У мяне, напрыклад, не працуе матэматыка. Таму што часта ў працэсе я магу паскорыцца, зразумець, як зрабіць штосьці больш эфектыўна, а значыць і вынік з'явіцца хутчэй.



## Пра натхненне

***Як прыходзіць натхненне?***

Падчас працы! Як апетыт падчас ежы. Натхненне прыходзіць толькі да таго, хто да яго гатовы. А быць гатовым – значыць сядзець і працаваць.

***Што ж натхняе?***

Самая вялікая крыніца натхнення для мяне – любоў да навакольных рэчаў і людзей. Калі пачынаеш бачыць прыгажосць у здавалася б зусім звычайных рэчах. Да мяне неяк зайшла суседка на гарбату, размаўляем, і раптам яна пытаецца: чаму ты на мяне так пільна глядзіш? А я ёй тлумачу: "У цябе такія прыгожыя фіялетава-сінія цені – вачэй не адвесці!"

***Ці можна назваць натхненнем ці творчым штуршком такія твае мастацкія праекты, як "Бясконцая кніга", "Рысавальны флэшмоб"?***

Несумненна. І для чытачоў майго блога, і для мяне самой. Мне важна ведаць, што ў мяне ёсць нейкія рамкі, якіх я павінна прытрымлівацца. Адказнасць перад чытачамі мяне падганяе. Калі я пачынала "рысавальны флэшмоб", у мяне была задача – больш маляваць з натуры. З часоў заканчэння вучобы ў інстытуце мне гэтага не хапала. Амаль усе пяць гадоў, што доўжыўся праект, я малявала разам з усімі без перапынкаў. Толькі пад канец, калі з'явілася "Бясконцая кніга", я толькі давала тэму і абмяркоўвала вынікі. Плюс з часам маляванне з натуры ўвайшло ў звычку – без штуршка звонку.

***Як пры такой інтэнсіўнай працы не перагарэць?***

Мне здаецца, людзі перагараюць, калі робяць нешта праз сілу. Калі існуе ціск і "абавязалаўка", любы занятак можа абрыднуць. Калі табе нешта па-сапраўднаму дае радасць, як гэта можа надакучыць? У мяне бывае так, што працуеш, набліжаецца дэдлайн, а мне хочацца ў нататніку дамаляваць накід. І я разумею, што калі буду працягваць свой дэдлайнавы заказ, то і яго як след не зраблю, і ў нататніку не рамалюю. Таму адрываюся ненадоўга ад працы, даю сабе час памаляваць тое, што хочацца, і з новымі сіламі саджуся за руцінны заказ. Так і жывем :)

**Карысная інфармацыя:**
Наталі Раткоўскі, ілюстратар
conjure.livejournal.com
instagram.com/natalie_ratkovski

*чароўны эфект*

# БОКЕ

Тэкст, фота: Наталля Рэца

*З дапамогай аднаго нескладанага фатаграфічнага прыёму можна рабіць чароўныя здымкі, з якіх атрымаюцца цёплыя святочныя паштоўкі. Нас навучыла гэтаму фатограф з Чэхіі Наталля РЭЦА, і мы спяшаемся падзяліцца яе ўрокам з вамі!*

# ► ШТО?

## БОКЕ

Калі гаварыць спрошчана, боке – гэта размыццё. Размыццё фону ўмоўна, калі вы хочаце засяродзіць увагу гледача на асобным аб'екце. Зіма і навагоднія агні – выдатны матэрыял для прымянення гэтага прыёму.

Тэрмін боке нам падарылі японцы, а яны, як вядома, з'яўляюцца найлепшымі ў свеце спецыялістамі па называнні прадметаў і з'яў, у якіх, здавалася б, не можа быць ніякіх назваў. Агульнапрынятае тлумачэнне тэрміну "боке" – гэта размыццё, якое ўяўляе сабой суб'ектыўныя мастацкія якасці часткі выявы, што апынулася на здымку па-за глыбінёй рэзкасці. Па-простаму, у боке істотна не толькі мяккае размыццё фону, але і сам "малюнак" такога размыцця.

Боке – адзін з самым неверагодных мастацкіх інструментаў, якія ёсць у арсенале фатографа. Я не проста так абрала тэрмін "мастацкі інструмент" – правільнае прымяненне боке патрабуе як творчай чуйнасці, так і ведаў магчымасцяў і характарыстык камеры і оптыкі.

# ► ЯК?

## 1. МАКСІМАЛЬНАЯ АДКРЫТАСЦЬ

Перавядзіце камеру ў рэжым прыярытэту дыяфрагмы і адкрыйце дыяфрагму як можна шырэй. Што гэта значыць? Рэжым прыярытэту дыяфрагмы ("аўтамат вытрымкі", Aperture) абазначаецца літарамі A ці Av у меню вашай камеры. У гэтым рэжыме вы можаце змяняць шырыню дыяфрагмы. Чым шырэй адкрытая дыяфрагма (то бок чым меншая лічба, што азначае адкрыццё дыяфрагмы), тым болей святла трапляе на матрыцу.

## 2. ПАДЫДЗІЦЕ БЛІЖЭЙ

Глыбіня рэзкасці – неабходны элемент для атрымання боке – залежыць не толькі ад ступені адкрыцця дыяфрагмы, але і ад адлегласці, што аддзяляе вас ад галоўнага аб'екта фотаздымка. Калі няма магчымасці падысці бліжэй, выкарыстоўвайце зум.



## 3. ВУЧЫЦЦА І ТРЭНІРАВАЦЦА

Навагодняя ілюмінацыя – найлепшы матэрыял для выпрацоўкі майстэрства ў боке. Патрэніравацца можна на любых іншых агеньчыках, што не маюць адносінаў да Новага года. Нават промні сонца, што прабіваюцца праз лісце, ствараюць дастаткова дробных крыніц святла, каб атрымалася прыгожае боке. Фары аўтамабіляў у корку таксама добры фон. Яшчэ адзін неблагі аб'ект для трэніроўкі – рассыпаныя блёсткі.

## 4. ФОКУС

Надаючы ўвагу задняму плану, не забудзьцеся ўпэўніцца, што аб'ект на пярэднім плане знаходзіцца ў фокусе.

## 5. СВЯТЛО І ЦЕМРА

Прадмет, які вы абралі ў якасці галоўнага героя фотаздымка, павінен быць добра асветлены. Або, наадварот, зусім не асветлены: тады на фоне боке ў вас атрымаецца дакладны цёмны сілуэт. Дрэнна асветлены і да таго ж не ідэальна цёмны аб'ект будзе збіваць гледача з тропу.

## 6. НЕ ПРЫТУЛЯЦЦА

Адлегласць паміж вамі і аб'ектам мусіць быць невялікай, пра гэта гаворыць пункт 2. А пункт 6 гаворыць: паміж фонам і аб'ектам адлегласць павінна быць вялікая, чым большая, тым лепей. Гэта таксама звязана з глыбінёй рэзкасці – чым далей фон ад пункту фокусу, тым больш ён размываецца.

## 7. НЕ ТРЭБА БРУДУ

Прынцып макраздымкі прадугледжвае, што ўсё, апроч асноўнага аб'екта, будзе размытае. Таму асяродак для гэтага аб'екта трэба падбіраць асцярожна. Напрыклад, калі вы здымаеце ўпрыгажэнне, якое ляжыць на стале, упэўніцеся, што на паверхні стала няма пылу, крошак і драпінаў – яны зробяць размыццё неахайным.

## 8. МЕСЦА ПАД СОНЦАМ

Як правіла, добрае боке з натуральным святлом атрымліваецца, калі сонца знаходзіцца бліжэй да гарызонту, чым да зеніту. Гэта тлумачыцца проста: чым вышэй сонца, тым менш святла трапляе на вертыкальныя паверхні і тым менш святла ад гэтых паверхняў адбіваецца. Большая частка святла трапляе на гарызантальныя паверхні, а іх складана выкарыстоўваць у якасці фону.

## 9. ПЕРАМЕНА МЕСЦА СКЛАДНІКАЎ

... у выпадку з боке нават вельмі мяняе вынік. Боке можа быць не толькі фонам для галоўнага аб'екта, але і можа выступіць у якасці гэтага самага галоўнага аб'екту. Тут істотна, каб ідэя такой перамены была зразумелая без тлумачэнняў, інакш глядач вырашыць, што перад ім – тэхнічны брак.

*Боке як ніякі іншы прыём у фатаграфіі дапамагае стварыць патрэбны настрой у паштоўках, даць сваёй фантазіі ўвасобіцца ў самых нечаканых формах. А самі паштоўкі могуць быць і навагоднія, і калядныя ці проста сезонныя, з нагоды зімовых вакацыяў, першага (або сто першага) снегу – увогуле, усё залежыць ад вашага жадання і ўяўлення.*

**Карысная інфармацыя:**
Наталля Рэца, фатограф, мастачка
facebook.com/natalia.rezza
busconductor.livejournal.com
instagram.com/nataliarezza/



# *навагодняя* ФЛАРЫСТЫКА

Тэкст, фота: Аксана Арлова, Марыя Рыкава

*Прыродныя раслінныя матэрыялы – гэта не толькі прыгожа і экалагічна. Вырабы з іх заўсёды атрымліваюцца ўнікальнымі і непаўторнымі, бо ў прыродзе няма ні адзінай аднолькавай галінкі ці кветачкі. А ў навагоднім дэкоры ўсе перавагі такіх матэрыялаў выглядаюць асабліва выйгрышна – у гэтым упэўненыя стваральніцы прафесійнай школы фларыстыкі ArtLab Аксана АРЛОВА і Марыя РЫКАВА. Фларысты падзяліліся з намі двума пакрокавымі майстар-класамі па стварэнні вянка і навагодняй кампазіцыі са свечкай.*

# Крок за крокам:

# КАЛЯДНЫ ВЯНОК

## З матэрыялаў і інструментаў нам спатрэбяцца:




*Звярніце ўвагу:*

- Аснову для вянка можна набыць у фларыстычным магазіне або зрабіць самастойна.

- Іглічныя галінкі могуць быць абсалютна любыя: елка калючая, елка звычайная, ядловец звычайны і казацкі, туя заходняя, піхта, хвоя, ціс, кіпарыс, араўкарыя і інш. Патрэбныя расліны можна знайсці ў любым двары, лесе, у кветкавым салоне ці ў сваім садзе.

- У якасці матэрыялаў для дэкору падыдуць шышкі, елачныя цацкі, карыца, гваздзіка і інш.

## крок 1

Прыкладваем да асновы хваёвыя галінкі ў адным напрамку і замацоўваем іх тэхнічным дротам.



## крок 2

Паступова запаўняем усю аснову раслінным матэрыялам, але не забываемся і пра адваротны бок нарыхтоўкі.





## крок 3

Пасля таго як аснова будзе поўнасцю пакрытая раслінным матэрыялам, пачынаем дэкарыраванне. Фіксуем дэкаратыўны матэрыял пры дапамозе гарачага клею.



## крок 4

Аздабляем наш вянок дробнымі дэкаратыўнымі матэрыяламі, таксама фіксуючы іх гарачым клеем.





Наш калядны вянок гатовы!

Яго можна павесіць на дзверы, над камінам ці выкарыстоўваць для дэкору святочнага стала.



## крок за крокам:

# НАВАГОДНЯЯ КАМПАЗІЦЫЯ СА СВЕЧКАЙ

З матэрыялаў і інструментаў нам спатрэбяцца:






## крок 1

Фларыстычную пену ("аазіс") адпаведнага памеру насычаем вадой і змяшчаем у вазончыку так, каб яна была надзейна зафіксаваная і не рухалася. Пачынаем запаўняць яе раслінным матэрыялам, спачатку хваёвым.



## крок 2

Усталёўваем у "аазіс" свечку. Для гэтага прымацоўваем шпажкі да свечкі пры дапамозе тэйп-стужкі, задаючы тым самым вышыню будучай кампазіцыі. Размяркоўваем астатні прыродны матэрыял.



## крок 3

Працягваем раўнамерна размяркоўваць прыродны матэрыял, захоўваючы зрокавы баланс і контур кампазіцыі (абрыс ромбу, калі глядзець на яе зверху).





## крок 4

Дэкарыруем аснаванне свечкі, абмотваючы яе лямцавым шнурам.

## крок 5

Устаўляем у кампазіцыю шышкі і елачныя цацкі, папярэдне замацаваўшы іх на шпажках пры дапамозе дроту і тэйп-стужкі.




## крок 6

Упрыгожваем кампазіцыю дэкаратыўным дротам.



## крок 7

Абсыпваем кампазіцыю штучным снегам.




Наша навагодняя кампазіцыя гатовая! Засталося дачакацца свята, запаліць свечку і чакаць цуды!



**Карысная інфармацыя:**

Аксана Арлова,
Марыя Рыкава

Школа прафесійнай фларыстыкі ArtLab

Artlab.by

# #journalist_alovak



*Знаёмцеся, гэта журналіст Аловак! Ён дапамагае ствараць наш часопіс і любіць падарожнічаць. З моманту публікацыі аошняга нумара Аловак паспеў пабываць у Расіі, Іспаніі, Літве... і гэта толькі пачатак! Давайце адкрыем нашаму сябру ўвесь свет!*

*Калі вы збіраецеся падарожнічаць і ў вас ёсць жаданне ўзяць з сабой вельмі мілага і кампанейскага журналіста – напішыце нам пра гэта ў сацыяльных сетках. З Алоўкам весела і гарады новыя адкрываць, і сэлфі файныя рабіць:) Галоўнае – не забудзьцеся прывезці яго назад, у Мінск.*

*Дарэчы, наш памочнік з'явіўся ў рэдакцыі дзякуючы майстэрні **"КРАСИВО ДОМА"**.*











## *Для прыгатавання ледзяшоў нам спатрэбіцца:*

• 1 шклянка цукру,

• • 0,5 шклянкі травяной гарбаты,

• • • 1 сталовая лыжка лімоннага соку,

• • • • цукровая пудра,

• • • • • папера для выпякання.

1 *Рыхтуем аснову будучых ледзяшоў – гарбату. Я брала каркадэ, сухацвет, шалфей, календулу і імбір. Змешваем зёлкі і заліваем кіпнем, даём гарбаце настаяцца.*

• *Каркадэ надае прыемны чырвоны колер, дапамагае пры праблемах стрававання і ліхаманках.*

• *Сухацвет і шалфей валодаюць супрацьгрыбковым, супрацьмікробным і супрацьзапаленчым дзеяннямі.*

• *Календула – таксама супрацьзапаленчы сродак, выводзіць таксіны з арганізму.*

• *Імбір саграе, стымулюе крывазварот, валодае супрацьзапаленчым і супрацьмікробным дзеяннямі.*

2 *У невялічкі рондаль засыпаем цукар, заліваем гарбату і лімонны сок. Даводзім сумесь да кіпення, пастаянна памешваючы на сярэднім агні. Не перастаючы мяшаць, змяншаем агонь да мінімальнага і варым сумесь каля 20 хвілін да стану густой цягучай масы.*

3 *Здымаем сумесь з агню, ахалоджваем пару хвілінаў і лыжкай фармуем кроплі на паперы для запякання. Калі кроплі астынуць, іх можна абваляць у цукровай пудры, тады яны не будуць склейвацца пры захоўванні.*

*Перакладаем ледзяшы ў невялікую бляшаную або кардонную скрыню і частуем здзіўленых гасцей арыгінальнымі самаробнымі цукеркамі!*



# #НГцацкадня

У мінулым нумары часопіса мы аб’явілі пра запуск флэшмоба ў нашым акаўнце ў Instagram на тэму “навагодняя цацка”. На працягу апошніх некалькіх месяцаў мы з нашымі падпісчыкамі фатаграфавалі цацкі і выкладвалі ў сетку фатаграфіі з хэштэгам #НГцацкадняALOVAK. Падборка самых цікавых у гэтым нумары.

Дзякуем усім удзельнікам!



FOLLOW ALOVAKmag ON INSTAGRAM
@alovakmag


1.


2.


3.



4.


5.


6.

1 – @elenashl; 2, 11, 14 – @ruzabel; 3 – @baraban4ik; 4 – @leanovich; 5, 9 – @natochkamyr;

# АБ'ЯВА!

Тэма наступнага флэш-мобу – **ЖОЎТЫ КОЛЕР!**

Выкладвайце фатаграфіі на тэму ў сваім профілі з хэштэгам

**#жоўтыALOVAK.**

Лепшыя здымкі з'явяцца ў падборцы ALOVAK #9.


7.


8.


9.


10.


11.


12.


13.


14.


15.

6,8,12 – @urbanovich_inna; 7, 10, 15 – @fiammafemme; 13 – @alabradzikhina.

# *святочны* РАСПРОДАЖ



Тэкст: Таццяна Грослер
Ілюстрацыі: Ірына Бельская

*Кожны майстар сваёй творчасцю прыносіць радасць у дом пакупніка, а радасць да пэўнага свята прыемная ўдвая! Зараз мы разбяромся, як правільна арганізаваць акцыю ці распродаж вашага тавару, каб усе бакі засталіся задаволенымі: вы не пакрыўдзілі свайго ўнутранага творцу, а пакупнік набыў выраб з прыемнасцю і выгадай.*

## 1. Пастаноўка мэты

Першае простае пытанне, якое вы мусіце сабе задаць – для чаго мне патрэбны распродаж? Уважліва ацаніце свой тавар у наяўнасці. Магчыма, пэўная прадукцыя была не вельмі запатрабаваная па асноўным кошце ці нейкія вырабы засталіся ў рэштках, а можа вам проста захацелася вызваліць месца для новых ідэй! Варта памятаць, што любы распродаж заўсёды прываблівае патэнцыйных пакупнікоў, а гэта значыць, што добра зладжаная акцыя прывядзе ў ваш магазін новых кліентаў, дзякуючы чаму вы зможаце павялічыць агульны аб'ём продажу.

Калі большая частка вашай працы пабудавана на папярэдніх замовах, вам трэба будзе вельмі адказна паставіцца да ацэнкі сваіх магчымасцяў: пралічыце колькасць замоў, якія вы зможаце выканаць да пэўнага тэрміну. Раім арганізаваць акцыю, што распаўсюджваецца на колькасць замоў, напрыклад, вы можаце прапанаваць зніжку для першых дзесяці замоўцаў.

Памятайце, што сутнасць распродажу ў тым, што ён прадстаўляе шанец выгаднага набыцця. Калі вы будзеце часта паўтараць акцыі на адзін і той жа тавар/паслугу, кемлівы пакупнік будзе звяртацца да вас выключна ў гэтыя дні.

! *Пры неабходнасці пракансультуйцеся з бухгалтарам і юрыстам пра правільнае дакументальнае афармленне ўсіх акцый у вашым магазіне.*

## 2. Тэрміны і ўмовы

Такім чынам вы прааналізавалі вашыя магчымасці і вырашылі зладзіць святочны распродаж. Пачынаем!

1) Спачатку трэба выбраць, да якога менавіта свята вы падрыхтуеце сваю акцыю. Пастарайцеся распланаваць распродаж загадзя, таму што падрыхтоўка да такіх мерапрыемстваў патрабуе часу і ўважлівага падыходу. "Святамі" могуць быць не толькі ўсім вядомыя дні: Каляды, 8 Сакавіка, Дзень маці і пад., але і падзеі ў жыцці вашай майстэрні, напрыклад, "Нам 2 гады" або "У нас 5000 падпісчыкаў у сацыяльных сетках". Як варыянт, можна ладзіць зніжкавыя дні для мэтавай аўдыторыі: студэнтаў, пенсіянераў; прапаноўваць зніжкі да дня народзінаў кліента, а таксама арганізоўваць дні аднаго кошту ("Усе Мядзведзікі па 10 рублёў").

2) Вызначце дакладны часавы прамежак дзеяння акцыі. Раім не надта расцягваць тэрміны яе правядзення, каб кліенты былі абмежаваны ў часе і хутчэй прымалі рашэнне. Аптымальна адводзіць на акцыю не болей за 10 дзён.

3) Падыходзім да вельмі адказнага моманту: вызначаем памер зніжкі на абраны тавар або прадумваем, якія менавіта бонусы будзе атрымліваць пакупнік у межах правядзення акцыі. Гэта можа быць зніжка на тавары абранай катэгорыі, падарунак да набытага, продаж другога вырабу паводле больш выгадных умоваў, бясплатная дастаўка ў любую кропку свету і гэтак далей. Можна арганізоўваць сумесную акцыю з іншым майстрам, прапануючы зніжку на яго тавар/паслугі. Суадносна, і яго кліенты атрымаюць бонусы ў вашай майстэрні.

Звярніце ўвагу, што маркетолагі раяць не рабіць зніжкі ніжэй за 15% і вышэй за 70%. Больш за тое, надта вялікі памер зніжкі можа выклікаць пытанні ў пакупніка адносна цэнаўтварэння вашых тавараў, іх якасці. Надта нізкі памер скідкі не прыцягне належнай увагі, таму імкніцеся знайсці залатую сярэдзіну. Памятайце, што зніжка мусіць быць такой, каб адпускны кошт не быў ніжэйшым за сабекошт выраба.

## 3. Падрыхтоўка тавару

Вось вы ўжо вызначыліся з прадукцы-

яй/паслугамі, якія вы прадставіце вашым кліентам з прыемнай святочнай зніжкай. Зараз неабходна правесці працу з апісаннем на сайце, у сацыяльных сетках ці ў каталогу, які будзе дасяжны кліентам. У самім апісанні можна падказаць пакупніку, чаму менавіта гэты падарунак будзе дарэчным для пэўнага свята. Але самае галоўнае, не забудзьцеся аднавіць кошты. Памятайце, што старую цану прапісваць варта абавязкова. Можна выкарыстаць самы папулярны метад: закрэсліце старую, напішыце побач новую, “чырвоную” цану. Дапушчальна пакінуць першапачатковы кошт, але абавязкова пры гэтым напісаць адсотак зніжкі, які дзейнічае на прапанаваны выраб. Кліент сам будзе вылічваць розніцу і, паверце, гэта прынясе яму вельмі прыемныя адчуванні. Звяртаем вашу ўвагу, што маркетолагі не рэкамендуюць свядома завышаць першапачатковы кошт, каб зрокава павялічыць памер зніжкі.

Прапрацуйце агульную канцэпцыю падачы зніжкавых тавараў на сайце вашага магазіна. Можна разбіць па групах асобныя катэгорыі тэматычна, напрыклад, “падарункі для мамы”, “для вашага дзіця”, “сапраўднаму мужчыне” і пад. Не забывайцеся, што кліенту, які прыйшоў на распродаж, было б вельмі добра прадаць нешта і з новай калекцыі: прасачыце, каб распрадажную лінейку суправаджалі дапаўняльныя і тэматычна падобныя тавары па асноўным кошце. Напрыклад, сёння на распродажы чароўныя брошкі, зрабіце так, каб пры іх праглядзе ваш кліент звярнуў увагу і на падыходзячыя па стылі шалікі. Памятайце, што адна з мэтаў распродажу – агульнае прыцягненне ўвагі да вашай майстэрні.
Калі вы вырашаеце зрабіць зніжку на вырабы, якія здаяце на рэалізацыю ў партнёрскі магазін, то загадзя пагаварыце з гаспадаром пра такую магчымасць. Зрабіце акцэнт на тое, каб тавар быў правільна прадстаўлены: усё тое, пра што мы гаварылі вышэй.

Распродаж – гэта не значыць, што вы спрабуеце пазбавіцца ад нечага дрэннага ці непатрэбнага. Гэта інструмент маркетынгу для вас і свята для кліента! Да рэчаў на зніжках нельга адносіцца як да нечага іншага гатунку, імкніцеся перадаць гэтыя адносіны праз сацыяльныя сеткі, праз ваш сайт, прадаўцоў у магазіне.

## 4. Завяршальныя крокі

Што ж, асноўную працу вы зрабілі! Прыйшоў час пазнаёміць кліентаў з запланаванымі акцыямі. Для гэтага выкарыстоўвайце ўсе магчымыя сродкі: ваш сайт, сацыяльныя сеткі, рассыланне, флаеры на выставах і кірмашах, асабістыя паведамленні пастаянным кліентам і г.д. Зладзьце конкурс сярод удзельнікаў сацыяльных сетак: разыграйце падарунак сярод тых, хто зробіць рэпост інфармацыі пра распродаж у вашым магазіне. Самае галоўнае – апавясціце як мага болей патэнцыйных кліентаў. Істотна: у паведамленні абавязкова пазначце тэрміны і месца правядзення акцыі, бонусы, памеры зніжак, падарункі, усё тое, што абавязкова мусіць зацікавіць пакупніка. У той жа час не нагрувашчвайце інфармацыяй, аптымізуйце тэкст вашага паведамлення, асабліва гэта актуальна падчас сезонных святаў, калі кожная майстэрня рыхтуецца да свайго распродажу і кліенту ёсць з чаго абіраць.

Што ж, усе кліенты азнаёмленыя, у вас усё падрыхтавана для абнаўлення інтэрнэт-рэсурсаў і магазінных палічак суадносна з умовамі распродажу, а вы прасякнуты святочным настроем – даем старт!

Мы жадаем вам добрых вынікаў правядзення распродажу і акцый вашых тавараў і паслуг, няхай гэты вопыт стане для вас плённым і натхняльным. Ужывайце на практыцы новыя інструменты маркетынгу, прыцягваючы тым самым новых кліентаў і павялічваючы аб’ёмы продажаў!



# Кніжная завіруха

*Снежань залятае ў нашую будзённасць марозным паветрам, танцам сняжынак і чароўным прадчуваннем свята. У перадна-вагодняй мітусні знайдзіце некалькі свабодных вечароў, каб заварыць смачную гарбатку, спячы любімы пірог і ўладкавацца ў фатэлі з выдатнай кнігай!*

*У гэтым месяцы разам з героямі нашай кніжнай падборкі мы запрашаем атрымаць асалоду ад тонкага англійскага гумару, удосталь памаляваць, даведацца больш пра навагоднія традыцыі і хаця б на некалькі вечароў вярнуцца ў дзяцінства.*

Тэкст: Кацярына Чарняўская
Ілюстрацыі: Ірына Бельская

## Морыс Джонсан, Лорэн Міракл, Джон Грын. “Няхай ідзе снег”

(пераклад з англійскай мовы на рускую “Пусть идёт снег”, Фёдарава Ю.А.)

Праз снежную буру напярэдадні Калядаў маленькі гарадок у Паўночнай Караліне апынуўся літаральна адрэзаны ад усяго свету. Што ж застаецца рабіць падлеткам? Весяліцца, спрачацца і, канешне ж, круціць раманы!

Героі гэтай смешнай і па-добраму наіўнай кнігі сапраўдныя і шчырыя, такія, якімі бываеш толькі ў сямнаццаць гадоў. Яны сябруюць, кахаюць, трапляюць у розныя сітуацыі, п’юць каву ў “Старбакс” і насуперак усяму працягваюць верыць у калядныя цуды.

## Вітуння Чуйка “Маляванка мары для ўтульнай зімы”

(арыгінальная назва “Раскраска мечты для уютной зимы”)

Узімку вечары становяцца даўжэйшымі, а нагодаў для творчасці з’яўляецца шмат. У сувязі з гэтым маладая мастачка з Масквы Віта Чуйка стварыла ўтульную маляванку для дарослых, прасякнутую настроем зімніх святаў.

На яе старонках вас чакаюць гарачыя кубачкі какавы і гарбаты, утульны фатэль з пледам ля каміна, цёплыя рукавіцы і швэдры, упрыгожаныя елкі і нават асобны аркуш для складання спісаў і планаў на зіму. А расфарбаваныя старонкі альбома ператвараюцца ва ўпаковачную паперу для падарункаў, інтэр’ерныя карціны і чароўныя навагоднія паштоўкі.

## Юя Віcландэр, Свен Нурдквіст “Мама Му, Крумкач і Каляды”

(пераклад з шведскай мовы на беларускую Надзеі Кандрусевіч)

Дуэт шведскага ілюстратара С.Нурдквіста і пісьменніцы Юі Віcландэр ужо даўно заваяваў сэрцы бацькоў і дзяцей ва ўсім свеце. Іх героі, забаўныя, кранальныя і па-дзіцячы непасрэдныя, прываблiваюць з першых старонак і прымушаюць з нецярпеннем чакаць працягу вясёлых гісторый.

Героі гэтай чароўнай кнігі разумеюць, што Каляды не існуюць без прыемных падарункаў. Кніга нагадвае нам, як істотна радаваць адзін аднаго прыемнымі сюрпрызамі не толькі ў святы, але і кожны дзень.

## Джэром Клапка Джэром. “Гісторыі, распаведзеныя пасля вячэры”

(пераклад з англійскай мовы на рускую “Истории, рассказанные после ужина”, Калпакчы М.А.)

Не сакрэт, што напярэдадні Калядаў любы добрапрыстойны англійскі дух выходзіць на ўрачысты праменад. Ён шпацыруе па вуліцах, палохаючы выпадковых мінакоў сумнымі ўздыхамі, у той час як яго жывыя сваякі збіраюцца ля палымяных камінаў і распавядаюць адзін аднаму загадкавыя гісторыі.

Бліскучы зборнік апавяданняў Джэрома быў задуманы як камічная пародыя на святачныя і калядныя аповеды, шчодра адораная забаўнымі персанажамі, тонкай іроніяй і знакамітым англійскім гумарам.

# *Ідзі ты ў лазню!*

Тэкст: Валянціна Каржэвіч
Ілюстрацыі: Саша Каратаева

*Кожны год 31 снежня мы з сябрамі ходзім у лазню... Няспынныя псіхолагі змаглі вылічыць, хто мы такія, па тым, як мы... мыемся! Дзеля жарту (хаця, як вядома, у кожным жарце...) узгадайце, якую частку цела вы мыеце найперш, і давedайцеся пра сябе страшную праўду!*



# *Варыянты адказаў:*

## РУКІ



У першую чаргу клапоцціцеся пра чысціню рук? Гэта гаворыць пра вашую прыстойнасць, надзейнасць і любоў да працы. Вы імкняцеся дапамагаць усім вакол, за што вас любяць і шануюць, гэтай любові вам хацелася б усё болей і болей.



## ГРУДЗІ

Вы – чалавек справы! Справядлівы і прынцыповы, вы заўсёды адпавядаеце сваім мэтам. Ваша мэтанакіраванасць і адкрытасць прываблівае супрацьлеглы пол. Аднак на сваім шляху вы часта сустракаеце непаразуменне, што вас дужа раздражняе. Паспрабуйце навучыцца лавіраваць у цяжкіх жыццёвых сітуацыях і вы абавязкова знойдзеце гармонію з сабой і блізкімі!

## ТВАР



Вы лёгкія ў зносінах, але пры гэтым меркаванне асяродку вас не дужа клапоціць. Вы імкняцеся да матэрыяльнага дабрабыту, надаючы сабе вялікую ўвагу, што адлюстроўваецца на вашай прывабнай знешнасці. Азірніцеся вакол, магчыма, пакуль вы занятыя сабой, камусьці вельмі не хапае вашай увагі.



## ІНТЫМНЫЯ ЧАСТКІ ЦЕЛА

Вы сарамлівыя і, верагодна, недастаткова ўпэўненыя ў сабе. Навучыцеся давяраць людзям, і вашае жыццё забуяе новымі фарбамі. У вас вялікія магчымасці, і вы здольныя накіраваць сваё жыццё на шчаслівы лад.

## ПЛЕЧЫ



Вам уласцівы забабоннасць і вялікая ўражлівасць, праз гэта часам вам не зусім шанцуе ў справах. Будзьце ўпэўненыя ў сваіх магчымасцях і перастаньце верыць у дрэнныя прыкметы! Падыміце сваю самаацэнку, палюбіце сябе!



## ГАЛАВА

Вы разумныя і вядомыя сваімі інтэлектуальнымі здольнасцямі, аднак часам вам гэта замінае. Навучыўшыся “адключаць” галаву і расслабляцца, вы заўважыце, якое вашае жыццё цудоўнае і неверагоднае!

## ІНШЫЯ ЧАСТКІ ЦЕЛА

Вы яшчэ не паспелі раскрыцца, але пры гэтым з’яўляецеся чалавекам з разынкай. Часам вы незаўважныя, таму прыйшоў час выйсці з ценю і зрабіць тое, што вы так даўно адкладалі. Найлепшы час зрабіць гэта – акурат зараз!

# 100 СТРАЎ

*У рубрыцы “100” мы малюем разам з чытачамі. Прычым, малюем адзін і той жа прадмет, але ў ста розных варыянтах. Гэта вельмі займальны і карысны занятак: ён развівае фантазію, удасканальвае навыкі ў маляванні. Акрамя гэтага дорыць салодкае пачуццё перамогі, калі заканчваеш маляваць апошнюю, сотую карцінку!*

Для новага нумара мы малявалі разам з нашымі чытачамі стравы для смачнай вячэры: алоўкамі і акварэллю, фламастарамі і маркерамі... Мы ганарымся нашымі чытачамі і прапануем вам паглядзець на нашу падборку!

1, 6, 7, 13, 23, 26 – @katsibou; 2, 3, 8, 33 – Наталля Уласава; 4, 14, 20, 22, 25, 27, 28, 29, 30, 31, 35 – @natochkamyr; 5, 34, 38, 42 – @li1197; 9, 18,19, 32, 40, 43, 44 – @irinabeldesign; 10, 11, 37, 39 – Анастасія Краўчанка; 12, 15, 17, 36, 41 – Соня Федчанка; 16 – @yasnaya_jane; 21 – @leanovich; 24 – marino4ka_lma.



## ЯК ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У СТВАРЭННІ РУБРЫКІ “100” ALOVAK?

1. Тэма: КАТЫ
2. Малюйце свае 100 катоў і котак – у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў. Мы вітаем свабоду творчасці.
3. Калі вы намалюеце менш за 100 катоў – вы ўсё роўна можаце прыняць удзел у стварэнні рубрыкі.
4. Фатаграфуйце ці сканууйце свае вынікі і дасылайце на e-mail alovak100@gmail.com з паметкай “100 катоў”. Альбо публікуйце іх на нашых старонках у Facebook і Вконтакте ці ў сваім профілі ў Instagram (хэштэг #100катоўдляALOVAK).
5. З усіх дасланых малюнкаў мы абяром 100 самых цікавых, якія і трапяць у рубрыку.

**Жадаем вам натхнення!**

**Звярніце ўвагу!**
На старонках @alovakmag у Instagram, Facebook і Вконтакте мастачка Ірына Бельская кожны аўторак вядзе рубрыку #alovakmag_100, у якой простымі спосабамі вучыць маляваць аб’екты з рубрыкі “100” чарговага нумара ALOVAK. Не прапусціце!



*ALOVAK з'ездзіў у беларускі горад Баранавічы ў госці да Вікі Чайкі, Дзімы Ску і іх дачок. Кожны чалавек гэтай творчай сям'і таленавіты, і не дзіўна, што над большасцю сваіх праектаў яны працуюць разам. Мы пагаварылі пра тое, як сумяшчаць сям'ю, працу і творчасць, застаючыся пры гэтым вясёлымі і натхнёнымі.*



***Як з'явілася ідэя сямейнага праекту "Цудоўныя паштоўкі"?***

**ВІКА:** У маёй мамы была скрыня, у якой яна захоўвала паштоўкі. Я часцяком сядала і пераглядала іх. Думаю, з тых дзіцячых часоў і зарадзілася любоў і прывязанасць да іх.

**ДЗІМА:** Мы з Вікай даўно займаемся паштоўкамі, можна сказаць, што яны праходзяць праз усё нашае жыццё. Для нас паштоўка – не проста выява з подпісам, а нашае сямейнае прадпрыемства. Маленькі "свячны заводзік", у якім задзейнічаны ўсе.

**ВІКА:** Першая паштоўка ў праекце "Цудоўныя паштоўкі" называлася "Леў па імені Леў". У нашых сяброў нарадзіўся сын Леў і з гэтай нагоды нам хацелася падарыць нешта такое, што застанецца з дзіцём назаўжды. У доме было некалькі палотнаў, і я вырашыла, што дачка Марта намалюе эскіз, а я яго зраблю ў колеры. Так мы і зрабілі. Дарабіўшы карціну, я зразумела, што мы не зможам яе падарыць. Леў выйшаў вельмі файны! Тады мы адсканавалі гэты малюнак і надрукавалі пэўную колькасць паштовак. На той момант нават не ўяўлялі, у які вялікі праект гэта разрасцецца. Мы проста зрабілі паштоўку, якую хацелася дарыць нашым сябрам і знаёмым. Але паштоўка выклікала такія водгукі, што мы не сталі на гэтым спыняцца. А маленькаму Льву мы ў выніку падарылі вялікі плакат.

Наступным героем стала "Качаня Карына". Раз ужо да першай паштоўкі мы зрабілі подпіс, то і да астатніх вырашылі дадаваць тэкст. У большасці нашых подпісаў прысутнічае рыфма, а ў гэтай яе як бы няма.

**ДЗІМА:** Але для мяне гэта ўсё роўна верш у адзін радок: "Качаня Карына гуляе пад дажджом". Яно мае рытм, і нібыта "перакатваецца" ў роце. Калі прыдумваеш радок, ён павінен быць ёмістым, звонкім і класным! І зусім неабавязкова, каб у ім была рыфма. Тады паштоўка атрымлівае настрой, становіцца весялейшай.

**ВІКА:** Тэкст выдатна дапаўняе персанажы, адухаўляе гэтых жывёлаў, дае ім імёны.

**ДЗІМА:** Без подпісу гэта былі б проста малюнкі.

***Колькі часу займае стварэнне адной паштоўкі?***

**ВІКА:** Самае мінімальнае – адна ноч. Марта прамалёўвае персанаж, мне ён падабаецца, і я адразу ўяўляю яго ў колеры. За ноч паштоўка гатовая, а Дзіма тым часам прыдумвае тэкст.
Максімальна – можа расцягнуцца надоўга. Бывае, я заўважаю добры малюнак Марты, персанаж атрымліваецца цікавы, характарны, бачу, як яго можна дапоўніць. Але здараецца і так, што я прашу Марту намаляваць кагосьці на замову. Тады працэс ускладняецца, бо я нібыта спрабую абазначыць сваю думку яе рукамі. Мы можам падоўгу рэпета-

ваць, а праз некалькі дзён яна незаўважна для мяне яго намалюе. Я прыходжу і бачу: “Вось! Гэта ж тое, што трэба! Малайчына! А зараз давай гэта зробім на палатне”.

Так у нас з’явілася паштоўка з ваўком Жорам і яго галаўнымі ўборамі. У той момант, калі яго вобраз забраўся да мяне ў галаву – я засынала. Гэта быў пасляабедзенны дзённы сон, праз які прабілася гэтая ідэя. Я дакладна ўявіла, што гэта будзе воўк, на фоне якога размесцяцца шпалеры з чырвонымі капялюшыкамі. І я ўскочыла са словамі: “Марта! Давай хутчэй маляваць!”

*Ці ёсць у вас любімая паштоўка?*

**ВІКА:** Кожны раз, сядаючы за паштоўку, я лічу, што ў мяне нічога не атрымаецца, я баюся яе сапсаваць. Дзіма мяне супакойвае: “Сапсуеш – перамалюеш”.

Але так не хочацца “запэцкаць” карцінку. Так было і з сабачкам Аляксеем, думала, што нічога не атрымаецца. Але ён выйшаў цудоўным, у гэтай паштоўцы ў мяне атрымалася перадаць сапраўдную ноч, таму ён стаў маім самым любімым героем.

*Як выбіраюцца персанажы ілюстрацый?*

**ВІКА:** Заўсёды пачынаем з роздумаў пра тое, каго ў нас яшчэ не было. Леў быў, заяц таксама быў, птушак было вельмі шмат. О! Ваўка яшчэ не было. І паехалі.

Можна прывязваць малюнкі да падзей і святаў: калі нарадзілася наша другая дачка Таісія – намалявалі для яе кісу Таісу, або, напрыклад, да Новага года намалявалі аленіху Волю.

Было і такое, што Дзіма дарыў паштоўкі, а людзі прасілі намаляваць пэўных жывёлаў: так у нашай калекцыі з’явіліся вожык і мядзведзь.

Зараз мы ўжо спынілі дадзены праект. Усё пачыналася, калі Марце было 4 гады. Тады ў яе атрымліваліся такія смешныя і недарэчныя персанажыкі. А зараз яна малюе інакш. Мне здаецца, што яе сённяшнія ілюстрацыі не варта дамалёўваць. Яны зараз класныя і



паўнавартасныя самі па сабе.

Мне, канешне, было вельмі шкада, бо, напэўна, гэты быў першы доўгі праект. З другога боку, усё калісьці заканчваецца. Я радая, што гэты праект здарыўся ў нашым жыцці, спадзяюся, у нас з'явіцца яшчэ нешта падобнае і цікавае. Але на гэтым праекце пастаўлена кропка. Дакладней, будзе пастаўлена пасля майстар-класу для ALOVAK :)

***Распавядзіце пра іншыя свае праекты/працы?***

**ВІКА:** Набліжаўся чарговы Новы год, хацелася прыдумаць нешта па-сапраўднаму цікавае, каб упрыгожыць дом і падарыць сябрам. У выніку я спынілася на ідэі зрабіць лялек з салёнага цеста. Я ўзгадала, што гэта дастаткова моцны матэрыял і да зімніх святаў зрабіла 12 лялек, якія развесіла на сценцы. Калі да нас заходзілі сябры – я іх раздорвала. Выйшла падобная з паштоўкамі гісторыя, бо праз тое, што лялькі ўсім так спадабаліся, я пачала рабіць іх на продаж.

Паколькі ў цесце прысутнічае соль, то лялькі набылі імя – Сальфіна. Аднойчы мне прапанавалі рабіць лялек для аднаго магазіна, гаспадар якога доўга не мог паверыць, што  я сама прыдумала гэтую назву, лічыў, што я ўзяла яго з нейкай крыніцы, як лялькі Цільда, напрыклад.
Праз некаторы час я вырашыла, што я ўсё ж такі кераміст і варта пераходзіць на гліну. Многія замаўляюць маіх гліняных лялек для сваіх вясельных тартоў. Зараз я знаходжуся ў дэкрэтным адпачынку і часова імі не займаюся, ад гэтага і навіны пра Сальфінаў не аднаўляюцца. Але я іх не закіну. Яны мне часта сняцца.

**ДЗІМА:** У мяне з сябрам Іллём Кш ёсць музычны праект "Чтобы-чтобы". Я пішу тэксты, а Ілля – музыку. Мы выпусцілі некалькі альбомаў, два з якіх былі прыдуманыя і запісаныя за адзін месяц – люты. Дыскі зараз не запатрабаваныя, і мы вырашылі зрабіць сувенір-падарунак у выглядзе запалкавай скрыначкі, у кожнай з якіх ёсць адна чароўная сіняя запалка. Калі яе запальваеш – загадвай жаданне, і яно абавязкова спраўдзіцца.
Паралельна я займаюся афішамі. У далёкім 2004 годзе ў Баранавічах адчыніўся клуб, для якога я зрабіў лагатып. Затым я пачаў арганізоўваць канцэрты, маляваць афішы, вёў сайт, – адказваў за ўсю візуальную частку. Увесь працэс арганізацыі апынуўся добрым і цікавым вопытам. Так склалася, што знайшліся людзі, якім спадабалася, як я раблю афішы. У пэўны момант гэта стала маёй працай. Мне хочацца пажадаць іншым людзям таксама знайсці сабе працу ў гармоніі з душой.

***Як дзве такія творчыя асобы пражываюць пад адным дахам?***

**ВІКА:** Нам цікава і камфортна разам. Творчасць дарэчы ўплеценая ў нашае жыццё, і ад гэтага ніхто не пакутуе. Дзіма ў нас у сям'і зорка. У нашай пары я інтраверт, а Дзіма – экстраверт. Без яго мая творчасць магла б застацца незаўважанай. Вельмі многія людзі малююць і пішуць "у стол". Яны шмат чаго робяць, але гэтага ніхто не бачыць. Аднойчы мы нават стварылі свой музычны гурт, у якім я спявала і дзякуючы яго знаёмствам мы выступалі на розных сцэнах.

А без яго "Прывітаааннe, сябрыыы! Глядзіце, якая ў нас класная паштоўка!" я дакладна не змагла б падзяліцца "цудоўнымі паштоўкамі", так бы ўсё і заглухла.

***Што вас натхняе?***

**ВІКА:** Мяне натхняе жыццё. Няма пэўнага рэцэпту. Гэта зносіны з людзьмі, новыя знаёмствы, дзякуючы якім я адчуваю ў сабе моц сесці і нешта тварыць.
Часам я проста сябе прымушаю. І жаданне прыходзіць! Многія творчыя людзі пішуць: не чакайце натхнення – сядайце і працуйце. З Сальфінамі ў гэтым плане было проста: ёсць замова – сядаеш і робіш, а калі яе

няма – можна нешта іншае прыдумаць.

**ДЗІМА:** Для мяне натхненнем могуць быць фільмы, кнігі, музыка. Магу слухаць адну і тую ж песню па коле, і мой настрой з кожным разам толькі паляпшаецца. Натхненне здараецца часта ў плыні: нешта робіш, у цябе ўсё атрымліваецца, і табе гэта падабаецца. Учора, напрыклад, не мог зрабіць, а сёння ўжо ўмееш. І ўжо неістотна, што там будзе далей.
Або, да прыкладу, пагутарыш з людзьмі, і за спінай вырастаюць крылы! Накрывае такое прыемнае пачуццё лунання па жыцці, якім хочацца падзяліцца. Няма жадання забраць яго сабе, наадварот, хочацца дзяліцца і аддаваць яго іншым. Невычарпальная крыніца. Творчасць – гэта проста дзверы для гэтага.

**Карысная інфармацыя:**
Віка Чайка – 8ik.livejournal.com
Дзіма Ску – skoodima.com
"Цудоўныя паштоўкі" – tsudouna.by



# Пінгвін Веніямін

пакрокавая п’еса ў дзевяці дзеях



Тэкст падрыхтавала: Кацярына Буто
Фота: "Цудоўныя паштоўкі"

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

М а р т а, дзяўчынка 7 гадоў, малюе.
В і к а Ч а й к а, мама Марты, размалёўвае.
Д з і м а С к у, тата Марты, прыдумвае тэкст.

*Дзея адбываецца ў творчай майстэрні сямейнага праекта "Цудоўныя паштоўкі". Віка сядзіць за працоўным сталом. Перыядычна да яе падыходзяць Марта і Дзіма..*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ



**В і к а.** Ну што ж, нам трэба будзе намаляваць навагоднюю паштоўку. Каго б зрабіць яе галоўным героем? Ліса была, алені надакучылі, птушак ужо і без таго хапае. Можа быць белы мядзведзь? Не, ён асацыюецца з кока-колай. Можа пінгвін? *(звяртаецца да Марты)* Марта, табе заданне: намалюй пінгвіна!

**М а р т а.** А як ён выглядае?

*Пачынаюць шукаць у інтэрнэце выявы пінгвіна. Марце галоўнае зразумець, як яго можна намаляваць схематычна. Робяць разам некалькі замалёвак.*

**В і к а.** А што калі пінгвін будзе трымаць у лапках зорку?

**Д з і м а.** О, так!



## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Марта намалявала з дзясятак варыянтаў пінгвіна, абраны найлепшы, Віка прыступае да наступнага этапу.*

**Ві к а.** Куды змясціць пінгвіна? Вядомая справа, што гэта мусіць быць наша любімая зіма. Але як яе перадаць? Зіма ў ружовых адценнях ці ў зялёных? Раніца ці цёмная ноч? Ноч у выявах прываблівае мяне болей, але яе складана маляваць... О, гэта будзе недасягальны паўночны полюс! Можа, паўночнае ззянне? Лепей горы-крышталі!



## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

*Віка дастае акварэль. Палітрай для яе служыць пластыкавы кантэйнер з-пад яек.*

**В і к а.** Акварэль празрыстая, лёгкая, нібыта ільдзінка. Фіялетавы, сіні і зялёны – вось горная палітра. Але колеры мусяць быць прыглушанымі, складанымі.

**Д з і м а** *(убачыўшы, што Віка пачала з гораў, здзіўлена)*. Чаму ты пачынаеш з фону?

**В і к а** *(паціскае плячыма)*. Я адчуваю, што гэта самая складаная частка, таму хачу справіцца з ёй у першую чаргу.



## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

*Для пінгвіна Віка абірае шчыльную акрылавую фарбу.*

**В і к а.** Прызнаюся, мне страшна, што вось зараз я ўсё сапсую. Таму на ўсялякі выпадак пераведу выяву на іншы аркуш паперы.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ



*Запасны аркуш паперы з пінгвінам не спатрэбіўся. Віка бярэцца за неба, абірае акрылавыя фарбы патрэбнага колеру.*

**В і к а.** Неба павінна быць цёмным, але святлейшым за пінгвіна. Змешваю фарбу і раблю некалькі мазкоў на чарнавіку... Так... А можа быць гэтак?.. Патрэбнае адценне знойдзена!

*Запаўняе ўсю нябесную прастору абраным адценнем.*

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ



**В і к а.** Пад лапамі нашага героя павінен быць начны снег. Гэта заўсёды колеравы пошук. І незразумела, добра будзе ці не вельмі, пакуль фарба не ляжа побач. Калі не, то давядзецца перамалёўваць, бо тут не націснеш ctrl+z... *(атрымлівае патрэбнае адценне)*. Вось жа ён!

*Марта час ад часу падыходзіць і ўхвальна ківае. Раптам махае рукамі.*

**М а р т а.** Мама, ты што! У пінгвіна мусіць быць жоўтая плямка!

*Віка дадае жоўтую фарбу на шыю пінгвіна.*

## ДЗЕЯ СЁМАЯ

*Прыйшоў час зоркі. Яе таксама малююць акрылавай фарбай.*



**В і к а.** Зорка будзе яркай, светлай, вабнай, як надзея. Вакол зоркі мусіць з’явіцца ззянне. Сухім пэндзлем растушую кропелькі жоўтай фарбы на цёмным фоне... Дзіма! Паглядзі, свеціцца? *(растушоўвае зноў і зноў, паўтарае пытанне Дзіму)* А зараз?

**Д з і м а.** Не свеціцца. Не. Усё яшчэ не... А вось зараз так!

## ДЗЕЯ ВОСЬМАЯ



**В і к а.** На зямлю дадам кропачкі *(малюе белай акрылавай фарбай)*. Жывот пінгвіна зраблю аб’ёмным. Для гэтага мне спатрэбіцца просты аловак. І яшчэ не забыцца зацямніць прастору пад пінгвінам...

*Пра тое, што выява атрымалася, Віка разумее па захопленых позірках Дзімы і Марты.*

## ДЗЕЯ ДЗЯВЯТАЯ

*Дзіма прыдумвае тэкст подпісу да паштоўкі.*

**Д з і м а.** Такс, задача прыдумаць вершык у адзін радок. Жывёла + імя + нейкая дзея + апісанне ці прадмет. Мусіць быць рытм, пажадана алітэрацыя. Тэкст мусіць “звінець”! 23 разы гэта атрымлівалася. А тут? *(угаворвае сябе)* І тут атрымаецца... Дадзена: пінгвін, зорка, горы, зоркі, неба, зіма. Віка, як назавем Пінгвіна?

**В і к а.** Давай так: пінгвін Веніямін.

**Д з і м а.** Добра. Але калі знойдзецца іншае больш падыходнае імя, то заменім без праблемаў. Зараз трэба ад нечага адштурхнуцца. Перабраць, запусціць махавік ідэй.

*Праходзіць некалькі дзён. Некалькі разоў Дзіма спрабуе прыдумаць тэкст у хуткім парыве, каб “само” неяк паўстала, але не атрымліваецца. Час падціскае, ужо трэба адпраўляць паштоўку “ў друк”. Дзіма прачынаецца рана. Раней за ўсіх. Скануе малюнак, рэдагуе, кадрыруе, шукае ў Яндэксе “рыфма да слова пінгвін”.*



Пингвин Вениамин поёт зиме гимн

**Д з і м а.** О, як шмат словаў. Але ўсё не тое... *(раптоўна ўскрыквае)* О, а як жа слова “гімн”! Пінгвін Веніямін співае зіме гімн... Спявае зіме гімн пінгвін Веніямін... Зіме спявае гімн Веніямін пінгвін... Не, так кульгае. Трэба паслядоўна. Асаблівы рытм прысутнічае, алітэрацыя ёсць, рэдкае імя таксама. І, здаецца, звініць! Вельмі добра, што ў тэксце няма прамога апісання таго, што і як бачыць глядач. Атрымліваецца яшчэ адзін сэнсавы і паэтычны пласт. З’яўляецца глыбіня!

*Дзіма бяжыць да Вікі, якая толькі што прачнулася, і выпальвае замест стандартнай “Добрай раніцы”...*

**Д з і м а.** ...Пінгвін Веніямін спявае зіме гімн!

**В і к а.** Ура!

*Вось так і атрымліваюцца “Цудоўныя паштоўкі”.*

## ЗАСЛОНА

*Вясёлы калядны час! Старажытнае пераплятаецца з новым, усе ў радасным прадчуванні нараджэння новага сонца і новага года. У такі пераломны час нібыта прыадчыняецца завеса таямніцы і здаецца, што можна зазірнуць у будучыню… Пра традыцыі варажбы на Каляды чытайце ў матэрыяле Насты ГЛУШКО.*



*Ішла Коліда ўвечары,*
*Несла арэшкі ў рэшаце,*
*Паставіла на сталочку,*
*Сама села в угалочку.*
*А там дзевачкі гадалі,*
*Лі сталочку прабягалі...*

Зазірнуць у будучыню хочацца нават нам, сучасным, якія амаль самі ствараюць сваё жыццё, а што ўжо казаць пра колішніх людзей, лёс каторых залежаў у вялікай ступені ад сілаў прыроды, з якімі не паспрачаешся. Са старажытных часоў захавалася безліч прыкмет і розных магічных дзеянняў, якія, як лічылася, маглі б дапамагчы палепшыць лёс будучага ураджаю, адгадаць, ці хутка вернецца вясна, якім будзе лета, даведацца, што ж чакае наперадзе...

Часцей за іншых цікавіліся сваім будучым лёсам, канешне, дзяўчаты. Каханне і шлюб прынадна мігцяць наперадзе, але ці будуць яны шчаслівымі? Аддасць маці за любага ці за чужога з далёкай стараны? А можа, у гэтым годзе яшчэ можна пагуляць з сяброўкамі і не спяшацца? Восенню адгудзела Вялікая вясельніца*, але ж наперадзе яшчэ Малая вясельніца, што распачнецца бліжэй да вясны. **Каляды – самы час даведацца, што ж чакае наперадзе.**

* Вялікая вясельніца – час, калі пасля сканчэння земляробчых прац пачыналі гуляць вяселлі.

## Цікава ведаць

Калядны перыяд складаецца з трох вялікіх святаў: Раство, Васілле (св. Васіль, Новы год) і Хрышчэнне (Вадохрышча). Адпаведна, вечары перад гэтымі святамі называлі Посная Куцця (Галодная, Бедная каляда), Багатая Куцця (Шчадрэц ці Шчодрая, Тоўстая Куцця) і Трэцяя Куцця (Вадапосная, Хрышчэнская).

У калядныя вечары, якія называлі “крывымі”, існавала шмат забаронаў на працу. Нельга было нічога гнуць, круціць, а таксама прасці і шыць, бо наступствы для гаспадаркі былі б вельмі дрэнныя. Верылі, што праз парушэнні забаронаў дзеці маглі б нарадзіцца хворымі, а скаціна – знявечаная, і, наогул, усё пайшло б “крыва”. Калі ж вы ўсё ж правініліся, апошні шанец штось выправіць заставаўся на Трэцюю, Хрышчэнскую Куццю. Трэба было ўзяць нітку і завязаць на ёй столькі вузельчыкаў, колькі было правінаў. Пасля тую нітку спальвалі ці выкідалі.

Варажылі звычайна на Шчадрэц (перад Новым годам). Спосабаў даведацца пра свой лёс існавала даволі шмат, ад зусім простых, хутчэй падобных да гульні, да складаных, з цэлым шэрагам дзеянняў і забаронаў, але з больш дакладным вынікам.

Да простых можна аднесці варажбу на цот і лішку. Дзяўчаты выбягалі на двор і хапалі бярэмя дроў, цягнулі ў хату і падлічвалі: калі выходзіла цотная колькасць – быць у пары ў гэтым годзе, калі няцотная – сёлета замуж не пайсці. Таксама можна было набраць на двары трэсак і палічыць іх, альбо абняць плот, не лічачы штыкецін, і праверыць, ці цотная колькасць іх патрапіла пад рукі. А можна палічыць іх, прыгаворваючы: “То тын, то тынец, то хлопец, то ўдавец”, хлопцы ж казалі: “То кол, то каліца, то дзеўка, то ўдавіца”, якое слова будзе апошнім – такія і высновы.

Перад Новым годам дзеўкі збіраліся ў адной хаце, спявалі, размаўлялі, апоўначы ж выпраўляліся ў поле, кожная кідала свой абутак праз плячо і адзначала, куды паляціць. Верылі, што, калі зранку абутак не знойдзецца, дзяўчына пойдзе замуж, а калі будзе на месцы, то яна пакуль дома застанецца. Каб даведацца, у які бок замуж пойдзе, скідалі з нагі чаравік і штосілы кідалі яго на вуліцу (альбо праз страху), глядзелі, у які бок наском ляжа, у той бок і аддадуць. З той жа мэтай бегалі пад суседскае вакно і слухалі гаспадарскія размовы. Калі пачуюць: “Ідзі ўжо, хопіць сядзець!”– значыцца, хутка вяселле, і наадварот, калі першыя словы будуць: “Пасядзі яшчэ, не спяшайся!”

Шмат якая варажба звязаныя з першым блінам, што спечаны на св. Васіля. Так, узяўшы першы блін, дзеўка бегла на ростань, і, з’еўшы яго, чакала, адкуль пачуе брэх сабакі – туды і замуж пойдзе. Альбо бегла да палонкі, дзе ваду бралі, і чакала, хто першы прыйдзе па ваду. Калі мужчына – аддавала яму блін, і верыла, што хутка быць у шлюбе. Нават хлопцы, жадаючы даведацца, з якіх мясцін будзе нявеста, пяклі блін самі і, усклаўшы яго на галаву, адпраўляліся на скрыжаванне дарог, дзе слухалі, адкуль пачуецца брэх сабак – адтуль і нявеста. Калі вынік быў добры – кідалі блін у той бок, калі не – забіралі з сабою. Таксама, блінамі ці аладкамі кармілі сабаку і глядзелі, чыю аладку з’есць першай – тая першая і пойдзе замуж. Першы блін насілі ўвечары ў хлеў і скормлівалі ў цемры жывёле, пасля запальвалі святло і глядзелі, каму блін дастаўся: калі быку – ісці замуж, калі карове – сядзець у дзеўках.

Варажылі таксама з рэчамі-сімваламі. Хавалі прадметы пад талеркі ці шапкі, альбо проста завязвалі вочы і выбіралі адну рэч. Такім чынам можна было даведацца пра лёс альбо характар будучага мужа ці жонкі. Калі дзяўчыне выпадаў чапец – хутка замуж, грабянец – быць у дзеўках, пярсцёнак – замужжа, венік – стары муж, пясок – смерць, вугаль – цяжкае жыццё, пацеркі – слёзы, ключы ці хлеб – багацце, чарка – муж-п’яніца, іголка – муж-кравец і г.д.

Цікавая варажба звязана з пярсцёнкам. Напрыклад, застаўшыся адна, дзеўка глядзела праз пярсцёнак на свечку, імкнучыся пабачыць жаніха. Альбо кідала пярсцёнак у шклянку з вадою, ставіла на люстэр-



ка і, забраўшыся на гарышча, ля коміну, апоўначы выглядала ў шклянцы жаніха. Вось яшчэ больш разгорнутае апісанне: *"На Хрышчэнне, да поўначы, прынесці вады і прасеяць попел. Узяць чыстую белую талерку, на яе пакласці белы ліст паперы, на ліст насыпаць попелу, на попел паставіць шклянку, у шклянку – залаты пярсцёнак. Апоўначы запаліць свечку і глядзець у ваду, так можна пабачыць жаніха".*

З той жа мэтай накрывалі стол з кожнай стравы, што была на Куццю ў асобным пакоі, і глядзелі праз шчылінку, хто прыйдзе вячэраць. Калі дзяўчыне падавалася, што яна бачыць кагосьці – галоўнае было не спалохацца! Інакш усё магло знікнуць, а яна так і не даведаецца нічога. Варажыць такім чынам, па расповедах, адважваліся толькі адзін раз, бо было дужа страшна. А калі дзеўка была смялейшай, то заставалася ў пакоі і гукала: "Прашу на вячэру!" Але ж нельга было на стол класці ні нажа, ні відэльца, бо такая варажба магла дрэнна скончыцца.

Пра ліццё воску ці волава, напэўна, усе ведаюць – у халодную ваду льюць расплаўлены воск ці волава, калі фігурка застыне, глядзяць, да чаго атрымалася падобная, і па выніку мяркуюць аб будучым лёсе.

Вось яшчэ адзін цікавы варыянт варажбы. На Хрышчэнскую Куццю дзеўка варыла сабе салёную бульбу ў лушпайках, ні з кім не размаўляла, клалася спаць і пільнавала: хто ў сне падасць вады – той і суджаны.



Часам для варажбы зачынялі сапраўдны калодзеж: з адкрытым замком тры разы абыходзілі калодзеж, пасля чаго замыкалі замок, а ключ клалі пад падушку. Тры разы казалі: "Суджон-раджон, прыйдзі каня паіці і ключа прасіці" і чакалі , хто прысніцца – той і будзе будучым мужам. Запомніць імкнуліся хаця б якія прыкметы: чарнявы, кучаравы, кульгавы, малады ці стары.

Распаўсюджаны таксама варыянт з мостам, кладкай. Дзеўка ці хлопец бралі ў рот лучыну, запаленую з дзвюх канцоў, гасілі яе недзе ў палонцы, мачаючы ў ваду спачатку правы канец, тады левы, не выпускаючы з роту. Не азіраючыся, моўчкі вярталіся дамоў. Лучынку ламалі на дзевяць кавалкаў і клалі іх радком, як масток, сабе пад падушку (альбо на пасудзіну з вадою). Ноччу павінен быў прысніцца суджаная ці суджаны, які перавядзе па мастку.

***

*Смелым трэба быць, каб зазірнуць у вочы свайму лёсу. Што чакае наперадзе? Шчасце ці жыццёвыя складанасці? Жыццё будзе багатым ці ў дзеўках прыйдзецца век векаваць? Ці варта шукаць адказ, калі ён можа аказацца не суцяшальны? Кожны вырашае сам.*

*Артыкул падрыхтаваны на аснове матэрыялаў з кніг "Жыцця адвечны лад" і "Зямная дарога ў вырай" (Мінск, выдавецтва "Беларусь", 2010, укладальнік У. Васілевіч).*

майстар-клас

# Навагодняя цацка ў тэхніцы стрынг-арт

Тэкст, фота: Юлія Курленя



*Стрынг-арт – цікавы від рукадзелля, які набірае ўсё большую папулярнасць. Дзіўна, як пры дапамозе простых цвікоў і вяроўкі можна стварыць аб'ёмныя і эфектныя прадметы дэкору. Навагоднія цацкі не выключэнне – майстар Юлія КУРЛЕНЯ пакрокава растлумачыла, як іх зрабіць.*

## З матэрыялаў і інструментаў нам спатрэбяцца:



- бярозавыя спілоўкі або бярозавы пянёк;
- электралобзік або нажоўка;
- малаток;
- абцугі (або пасатыжы);
- нажніцы;
- маленькія цвікі;
- дэкаратыўныя мэблевыя цвікі;
- атласная стужка шырынёю 0,6 см;
- наждачная папера P100 і P150;
- ніткі;
- макет выявы, намаляваны або раздрукаваны.



## 1.

Нарыхтоўваем бярозавыя спілоўкі. Пры дапамозе электрычнага лобзіка ці нажоўкі па дрэве наразаем бярозавы пянёк дыяметрам у 10 см на спілоўкі таўшчынёю да 2 см. Паверхню спілоўкі шліфуем наждачнай паперай і, пры жаданні, пакрываем марылкай або матавым лакам, даем высахнуць.



## 2.

На нарыхтоўку цацкі прымяраем макет будучага малюнка. Галоўнае, каб абрыс малюнка змяшчаўся цалкам на паверхні спілоўкі без уліку кары. Таксама на малюнку неабходна размеціць арыентаванае месца забівання цвікоў.



## 3.

Праз малюнак пачынаем убіваць цвікі ў нарыхтоўку. Каб убіць усе цвікі на адным узроўні, пры забіванні іх можна трымаць абцугамі.



## 4.

Пасля таго як забілі цвікі, выдаляем папяровы макет, а затым прыступаем да працы з ніткамі. Канец ніткі завязваем за цвік і пачынаем абмотваць контур, агібаючы кожны цвік. Хвосцік ад вузельчыка падварочваем унутр контура, ён схаваецца пад наступным запаўненнем ніткамі.



## 5.

Пасля стварэння контура пераходзім да запаўнення малюнка. Можна намотваць ніткі як у лагічнай паслядоўнасці, так і хаатычна. Але варта гэта рабіць раўнамерна, не прапускаючы цвікі.

Калі вырашыце, што наматалі дастаткова, паўтарыце працэс абмоткі па контуры і завяжыце вузельчык вакол аднаго з цвікоў, пасля чаго адрэжце нітку. Хвосцік асцярожна прыклейце, а цвікі забіце нашмат глыбей.



## 6.

Вырабляем стужку для падвешвання цацкі на елку. Для гэтага адразаем атласную стужку даўжынёю 15-20 см, пры дапамозе дэкаратыўнага мэблевага цвіка прыбіваем яе да бакавіны спілоўкі.

Такім чынам можна вырабіць любы малюнак на спілоўках, галоўнае памятаць, што цацкі атрымліваюцца дастаткова важкія, да 100 грамаў. Таму падчас выбару дыяметру спілоўкі ўлічвайце і памер вашай елкі.



**Карысная інфармацыя:**

Юлія Курленя, майстар
instagram.com/dark_side_of_the_mood

Ці любіце вы паштоўкі? Можа вы іх калекцыянуеце, адпраўляеце без нагоды ці дасылаеце сабе і сябрам паштоўкі з падарожжаў? А можа вы заўзяты посткросер? Каманда нашага часопіса вельмі прачула ставіцца да друкаваных паштовак, да паштовых адзнак, штампаў і марак. У гэтым нумары мы знаёмім вас з чарговай аўтарскай паштоўкай by ALOVAK. Спадзяемся, гэтая паштоўка падорыць вам усмешку і цяпло нашых сэрцаў.

*Ці хочаце вы атрымаць паштоўку ў сваю паштовую скрыню? Падпісвайцеся на нашы старонкі ў Facebook і Вконтакте, дзе вы даведаецеся падрабязней пра тое, як вельмі проста і лёгка яна можа ў вас апынуцца.*



*Творчыя людзі сутыкаюцца з пытаннем упакоўкі як мінімум у дзвюх сітуацыях. Па-першае, сваім блізкім, сябрам і знаёмым мы дорым падарункі, клапоцімся пра тое, каб яны былі прыгожа афармленыя. А па-другое, упакоўваем свае ўласныя вырабы для пакупнікоў. Ці задумваліся вы над тым, наколькі гэта істотна? У восьмым нумары ALOVAK мы падымаем такое актуальнае ў святочны час пытанне ўпакоўкі, падрыхтаваўшы некалькі карысных і цікавых матэрыялаў на тэму. А пачнем з агульных парадаў па ўпакоўцы.*

## 1. Быць або не быць

Падарунак сустракаюць па ўпакоўцы. Таму адназначна быць! Прытым, упакоўка можа быць цалкам бюджэтнай, а пры гэтым выглядаць стылёва і арыгінальна, у гэтым вы ўпэўніцеся, прачытаўшы нашыя матэрыялы.

## 2. Тэматыка

Улічвайце нагоду для падарунка або свята, да якога ён прысвечаны. Новы год, дзень народзінаў, дзень закаханых, 8 сакавіка, вяселле, народзіны дзіця – кожную падзею можна цікава абыграць.

## 3. Матэрыялы

Ва ўпакоўцы могуць выкарыстоўвацца самыя разнастайныя матэрыялы. Дызайнер Юлія Трафіменка раіць:
*"Прыглядзіцеся да навакольных рэчаў больш пільна, праверце палічкі ў шафе. Часам, для ўпакоўкі могуць падысці зусім нечаканыя рэчы. Напрыклад, адрэзы тканіны ці нават газетная папера!"*



## Ёсць ідэя!

Юлія Трафіменка, дызайнер decor-tj.com:

*• Для дэманстрацыі я ўзяла два віды матэрыялу: шчыльную малочную бавоўну і залатую празрыстую арганзу. Спалучэнне гэтых колераў і фактураў зробіць упакоўку святочнай і незвычайнай. Я сшыла звычайныя мяшочкі з тканіны, па-рознаму скамбінаваўшы яе. Але цалкам магчыма абгарнуць падарунак так жа, як і паперай, а зверху павязаць стужку. Таксама можна выкарыстоўваць контуры для малюнкаў па тканіне: зрабіць узор або надпіс.*





*• Няма тканіны? Звычайная газета дакладна знойдзецца ў кожным доме. Разразаем яе на два прастакутнікі, кладзем падарунак паміж імі, прашываем каляровай ніткай па краі. Для надзейнасці перавязваем вяроўкай або стужкай, дэкарыруем сухімі кветкамі, пацеркамі.*

## 4. Акцэнты

Упрыгожанне ўпакоўкі залежыць ад вашага густу, але трэба ўлічваць некаторыя нюансы. Фларыст Кацярына Карэнюгіна раіць:

*"Прыгожа ўпакоўваць падарунак уласнаруч зусім не так складана, як здаецца на першы погляд. Але не варта змешваць шмат рознага матэрыялу ў афармленні аднаго падарунка. Калі вам падабаецца ўпакоўка павесялей, то можна выкарыстоўваць бліскучую яркую паперу, блёсткі, розныя пацеркі, пер'е, дэкор, але галоўнае – не перабольшыць".*



## Ёсць ідэя!

Кацярына Карэнюгіна, фларыст
vk.com/katariosflowers:

• *Калі вы ўмееце вязаць, то сняжынкі, зорачкі, анёлкі стануць чароўнымі дэталямі для афармлення падарункавых пакетаў і скрыняў. Той, хто атрымае падарунак у такой упакоўцы, зможа павесіць гэтыя фігуркі на елку, што стане дадатковай нагодай для радасці і застанецца на памяць як мілы сувенір. Можна выразаць усе гэтыя дэталі з паперы і прыклеіць, атрымаецца таксама вельмі прыгожа.*

• *Для дэкору навагодніх падарункаў можна выкарыстоўваць штучны снег. Каб ён трымаўся на ўпакоўцы, прамажце клеем ПВА тыя месцы, куды збіраецеся насыпаць снег: праверана, трымаецца вельмі добра.*

## 5. Дэталі

Каб падпісаць падарункі, падыдуць маленькія паштоўкі або цэтлікі з подпісам. Гэтыя дэталі можна вырабіць з той жа паперы, якую вы выкарыстоўвалі пры ўпакоўванні.

## 6. Напаўненне

У якасці элементу дэкору, а таксама для забеспячэння захаванасці ўпакаванага вырабу і запаўнення пустэчы ў скрыні або пакеце, можна выкарыстоўваць усе магчымыя напаўняльнікі. Імі могуць быць, напрыклад, папяровыя гафрыраваныя або драўляныя стружкі, сізаль, папера ціш'ю.

## 7. Практычнасць

Утрымлівайце баланс паміж эстэтычнымі і практычнымі якасцямі ўпакоўкі, асабліва ў тым выпадку, калі падарунак (выраб) трэба адпраўляць па пошце. Бо яго трэба ўберагчы ад рызыкі разбіцця або ламання, намакання і іншых непрыемнасцяў перасылкі.

## 8. Назапасіць

Калі ўпакоўваеце вы нячаста, то можна працаваць па прынцыпе: новы падарунак (выраб) – новая ўпакоўка. Калі ж вам трэба зрабіць шмат падарункаў, выканаць замоў, або вы ўдзельнічаеце ў кірмашы, мэтазгодна задумацца пра гатовую ўпакоўку. Для гэтага ўмоўна раздзяліце вашыя вырабы па памеры, каб загадзя вырабіць або набыць неабходныя віды скрыняў або пакетаў.

## 9. Фірмовы стыль

Гэтая парада найбольш актуальная для ўпакоўкі вырабаў ручной працы, але цалкам дастасавальны і для ўпакоўвання падарункаў. Прыдумайце сваю "фішку", якая будзе прысутнічаць у кожнай упакоўцы. Як вы гэта зробіце – вырашаць вам. У гэтым могуць дапамагчы пячатка (штампік) з лагатыпам, наклейкі, цэтлікі, візітоўкі, паштоўкі, фірмовыя колеры і гэтак далей.

## 10. Прыемны сюрпрыз

Невялікія дапаўненні да падарункаў і пакупак, або так званыя фрыгіфты (ад англ. free gift) – гэта заўсёды прыемна для атрымальніка. Гэта можа быць як паштоўка са словамі ўдзячнасці, так і невялікі выраб або пробнік у камплект.

І апошняе. Мы поўнасцю згодныя з фларыстам Кацярынай Карэнюгінай, якая лічыць, што найлепшы падарунак – той, што падаецца з душой, а ўжо калі і запакаваны ўласнаруч, то атрымліваць яго ўдвая прыемней. Упакоўвайце з задавальненнем і дарыце радасць!



# Выкарыстанне натуральных матэрыялаў ва ўпакоўцы

Парады ад фларыста Кацярыны Карэнюгінай
vk.com/katariosflowers

• Прыродныя матэрыялы ўзімку? Лёгка! Дастаткова мець некалькі галінак або лапак адвечна зялёных (сасна, елка, піхта, туя, ядловец, кіпарысавік), а таксама разнастайныя натуральныя матэрыялы, якія можна сабраць восенню або набыць у садовых цэнтрах, фларыстычных або кветкавых крамах.

• Калі няма магчымасці набыць, напрыклад, сушаныя апельсіны, то іх можна зрабіць самастойна (прым.рэд. – глядзіце рубрыку “Паляпшаем жыццё”, ст. 168).

• Калі вы займаецеся ўпакоўкай у апошні момант, то можна выкарыстоўваць лапкі звычайнай елкі. Асабіста я часта выкарыстоўваю галандскую піхту, якая не асыпаецца і не губляе колер. Калі ж падарункі вы плануеце загадзя (за 2-3 тыдні), то лепш выкарыстоўваць кіпарысавік, ядловец, тую або сасну.

• Пры афармленні натуральнымі матэрыяламі можна выкарыстоўваць разнастайныя прыправы: палачкі карыцы, стручкі ванілі, аніс, гваздзіку і г.д. Яны глядзяцца вельмі гарманічна, а ў якасці дадатковага бонусу ваш падарунак будзе вылучаць прыемны тонкі водар.

• Каб замацаваць прыродныя матэрыялы на ўпакоўцы, выкарыстоўвайце двухбаковы скотч.



# Як не сапсаваць уражанне ўпакоўкай?

Тэкст: Ганна Ляўковіч
Фота: Святлана Варашылава, Ганна Ляўковіч



*Сваім меркаваннем па ўпакоўцы вырабаў падзялілася рамесніца і стваральніца майстэрні інтэлігентных цацак Sun&Co Ганна ЛЯЎКОВІЧ, а таксама падказала прыклады, як можна пры дапамозе мінімальных выдаткаў упакаваць любы падарунак.*

Калісьці даўно здарылася са мной сітуацыя: замовіла я ў адной майстэрні вязаную шапачку. Паехала забіраць і атрымала сваю шапку... у поліэтыленавым пакеце. Ведаеце, невялікія такія для бутэрбродаў. Без усялякіх "фры гіфтаў" і нават без візітоўкі. Адзначу, што я плаціла за гэты выраб досыць вялікія грошы. Зусім не выключаю магчымасці, што чалавек нават не акцэнтаваў на гэтым увагу, маўляў, раблю я шапкі добра і гэтага дастаткова.

Не, гэтага не дастаткова! Асабіста мне было нават крыху крыўдна. Такая ўпакоўка, шчыра кажучы, мяне закранула і "магічнасць хэндмэйду" знікла ў адзін момант.

Другі прыклад, таксама звязаны з вязаннем. Маю замову майстар упакавала ў пашыты ільняны мяшочак – проста, але вельмі стылёва. Такія рэчы хочацца дарыць, неверагодна прыемна атрымліваць, і хочацца яшчэ раз звярнуцца па замову! У такія моманты разумееш, што майстру было не ўсё роўна, што яна робіць, і, выконваючы замову, яна думала пра цябе.



Да чаго гэта я? Калі вы робіце рэчы ручной працы, нават калі вы ўвогуле ў гэтым жыцці нешта робіце: лечыце людзей, прадаяце бананы, мыеце посуд, кіруеце аўтамабілем/параходам/самалётам, падмятаеце вуліцы, калі ласка, рабіце гэта добра! Не толькі якасна, але і з любоўю і клопатам, тады і жыць будзе лягчэй, і ўсмешак вакол стане болей. Калі вы хэндмейдэр, будзьце творчым чалавекам да канца. Каб не атрымалася, што, здаецца, і выраб добры, але пададзены ён у найгоршым выглядзе.

Вы можаце запярэчыць, маўляў, спрабаваў чалавек зэканоміць. Няма на чым тут эканоміць. Самая простая крафтавая папера прадаецца ў беларускіх будаўнічых і мастацкіх магазінах, я набываю ў апошніх па 8 рублёў (прыкладна 0,5 долара) за скрутак у 20 метраў. Бяром простую вяроўку, самую танную, у тым жа будаўнічым магазіне, дзе я часта знаходжу рэчы для сваіх праектаў. 100 метраў такой вяроўкі каштуе 5 рублёў, такім чынам шнурок даўжынёю 50 см абыдзецца ў капейкі 2. Пагадзіцеся, гэта няшмат. Вядома, хочацца розных цікавінак. З бюджэтных: выразайце з газетнай паперы птушак, сняжынкі, кветачкі. Выйдзіце на вуліцу: наламайце галінак, збярыце лісце, жалуды – у залежнасці ад сезону. Не лянуйцеся фантазіраваць. Зімой можна дадаць бляску: ідзём у магазін "Усё для вязання", дзе знаходзім баваўняную нітку з люрэксам.



Напярэдадні Новага года клапаціцца пра ўпакоўку варта асабліва старанна, бо ваш тавар аўтаматычна становіцца падарункам ад Дзеда Мароза і прыемным сюрпрызам для кагосьці. Стварыць прыгажосць, якую вы бачыце на фотаздымках, мне вельмі дапамаглі Мая і Аляксандр Бублік, а таксама мой вечны выратавальнік Жэня Курныш, за што ім кажу дзякуй!

Для ўпакоўкі сваіх вырабаў я выкарыстоўваю ў асноўным мяшочную паперу для маленькіх замоў, скрыні з крафт-кардону для мобіляў, а таксама брэндзіраваныя пакеты двух памераў. Таксама я выкарыстоўваю мільён цікавінак, сярод якіх шпагаты розных колераў, штампы, набытыя і зробленыя на замову, штэмпельныя падушкі, біркі, візітоўкі, гузікі, сурвэткі, папяровы напаўняльнік, налепкі... і чорт нагу зломіць, што яшчэ ў мяне ёсць. Праўда, апошнім часам мая ўпакоўка стала больш чым лаканічнай. Да кожнай замовы я імкнуся прыкладаць фірмовыя магніцікі (той самы free gift), пашпарт вырабу, буклеты, дзякуй-карткі і візітоўкі. Шчыра прызнаюся, выніковая сума за ўсю гэтую прыгажосць выходзіць даволі вялікая, але ёсць рэчы, на якіх нельга эканоміць.

Фірмовыя скрыні, пакеты і тыпаграфічную прадукцыю я замаўляю ў мясцовых вытворцаў. Крафтавую ўпакоўку вырабляю сама, а дробязь замаўляю на вядомым усім aliexpress.com.









Я заўсёды ўяўляю, як чалавек будзе разгортваць, разглядаць і здзіўляцца маленькім сюрпрызам. І, між іншым, мы гэтым замацоўваем сваю карму: робім маленькія прыемнасці і зусім крышачку нечаканага цуду...




Спадзяюся, калі і былі сумненні ў неабходнасці ўпакоўкі, то я канчаткова іх знішчыла. Проста рабіце з душой, для сябе і так, як бы вы зрабілі для свайго дзіцяці.

Дзякуй!

# Мастацтва ўпакоўкі. Парады мастачкі

тэкст, фота: Таццяна Хлапкова

*Я вельмі люблю ўпрыгожваць падарункі. Мне падабаецца прыдумваць, важдацца з імі, падабаецца прадчуваць радасць чалавека, якому робіцца падарунак. А пераднавагодні час выдатна падыходзіць для задавальнення гэтай маёй жарсці.*

*Зусім неабавязкова плаціць вялікія грошы за абгортачную паперу. Матэрыялы для ўпакоўкі могуць быць самыя разнастайныя: крафтавая папера, старыя газеты, міліметроўка, ноты, схемы, коміксы, калька, непатрэбныя кардонныя скрыні, мапы і г. д. Я ніколі не выкідаю ўпакоўку ад кветак, збіраю ўсе прыгожыя паперкі, абгорткі, нарэзкі з часопісаў, пер'е, шышкі, пух ад дзьмухаўцоў, засохлыя пялёсткі кветак... Усё раскладаю па скрыначках і тэчках, клапатліва захоўваю. Звычайна пачуваюся плюшкіным. Але ва ўпаковачны час усё гэтае "смецце" становіцца маім выратаваннем.*

*Ёсць тры спосабы прыдумвання ўпакоўкі, якімі я карыстаюся.*

*Першы – сыходзіць ад самога падарунку, то бок упакоўка мусіць быць тэматычнай і нейкім чынам перагукваца са змесцівам. Напрыклад, унутры гэтай упакоўкі-кубачка знаходзіцца пакецік з кавай. Кубачак зроблены з кардону і абклеены аранжавай папяроснай паперай. Каб схаваць змесціва, зверху я прыклеіла папяросную паперу карычневага колеру, атрымалася "кава".*



*У гэтым пакеце знаходзіцца талерка з выявай пысы ільвяняці. Круглая пыса з грывай аднолькавая па форме з талеркай. Для дэкаравання пакета я выкарыстоўвала той жа прыём, толькі тут галава ільвяняці аднолькавая па форме з дэкаратыўнай сурвэткай.*



*Падарункі для аматараў коцікаў.*



*У гэтай "заспакаяльнай" упакоўцы хаваецца маска для сну. Яна ўпакаваная ў "матрац". У такой упакоўцы, дарэчы, можна падарыць і грошы, нібыта схаваныя "пад матрац".*



**Другі спосаб** *прыдумаць упакоўку – сыходзіць з формы падарунка ці скрыні. Напрыклад, калі скрыню-куб абклеіць і абмаляваць, то яна можа стаць і косткай для гульні, і кубікам Рубіка, і дзіцячым кубікам з літарамі (можна падабраць свае забаўныя словы і малюнкі пад літары на гранях). Прамавугольная скрыня можа стаць чамаданам, фотаапаратам, тэлевізарам, аўдыякасетай... У дадзеным выпадку скрыня ператварылася ў касетны магнітафон.*



*А ў гэтай "камодзе" схавалася скрыня з электраінструментам для працы з дрэвам.*





*Можна выкарыстоўваць не толькі форму, але і асобныя "вылучаныя" часткі падарунка. Напрыклад, унутры гэтай упакоўкі знаходзіцца вязаная шапка з пампонам. Пампон быў выведзены вонкі і ператварыўся ў нос.*

*Трэці спосаб* - сыходзіць з таго, якія ўпаковачныя матэрыялы ёсць у наяўнасці. Узоры на паперы, яе колер, тэкстура, могуць натхніць на пэўныя ідэі.

*У дадзеным выпадку, каб дадаць жыцця паперы з аблокамі, я прыклеіла да яе кардонныя паветраныя шарыкі і прывязала да іх вяровачкі.*





*Розныя дробязі можна выкарыстоўваць для стварэння ўзораў на ўпакоўцы.*

*Калі ў наяўнасці ёсць толькі каляровая папера.*



*І нават калі няма нічога, акрамя белай паперы, яе можна падмаляваць акварэллю.*



*Або ўявіць, што белая папера – гэта снег, і “пасадзіць” на ім лес.*



## *Прыемнага ўпакавання!*

### *Карысная інфармацыя*

Таццяна Хлапкова, мастачка

instagram.com/tkhlopkova

# У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ

*Тэкст: Вікторыя Анжэ*
*Падборка сайтаў: Таццяна Хлапкова*
*Фота: з пазначаных сайтаў*

*У сённяшнім аглядзе ALOVAK дзеліцца новай партыяй любімых спасылак на анлайн-рэсурсы.*



**lenkaclayton.com**

Чалавек, які можа ўласнаруч пранумараваць 7000 камянёў, знайсці 613 чалавек, якія так ці інакш былі ўзгаданыя ў адным з нумароў нямецкай газеты, зрабіць відэа з людзьмі-прадстаўнікамі свайго ўзросту ад 1 да 100 гадоў, стварыць рэзідэнцыю для мастакоў і пасяліцца ў ёй з уласнымі дзецьмі. Гэта ўсё пра Ленку Клейтан – англічанку, што жыве ў Нью-Йорку, канцэптуальную мастачку, чые працы прадстаўленыя ў музеях і галерэях па ўсім свеце.

Калі натхненне знікае і здаецца, што ўсё ўжо даўно вынайдзена, сканструявана і зроблена, – бягом на сайт Ленкі. Яна выкарыстоўвае аб'екты паўсядзённага жыцця, перакручвае, ажыццяўляе, дадае ў іх сюррэалістычныя ноткі, якія смела ўзводзяць гэтыя прадметы ў ранг твораў сучаснага мастацтва.



**folkforms.ru**

Адкрыўшы гэты сайт, не палохайцеся! Гэта не вёрстка зляцела і не ў вас перад вачыма ўсё плыве. Гэта ўсё ўяўленне мастака! На сайце ўся інфармацыя прадстаўленая ў выглядзе сямі пластоў, кожны з якіх можна ўключаць і выключаць (для гэтага трэба націскаць на "вочы" ў маленькім акенцы злева). Нагуляўшыся з вачамі і пластамі, уважліва разгледзьце некаторыя экспанаты з калекцыі самаробных бытавых прадметаў, што сабраны мастаком Уладзімірам Архіпавым. Напрыклад, рыдлёўка з дарожнага знака, абажур з таркі, керамічны кубачак з драўлянай ручкай, якую прыклеілі эпаксідкай замест адбітай, і гэтак-гэтак далей. Да фотаздымка кожнай рэчы дадаецца фота і аповед аўтара пра яе, а часам нават аўдыё-версія аповеду. Мастацтва і этнаграфія адначасова.



**paumes.com**

Аматарам усяго стыльнага і прыгожага абавязкова спадабаецца сайт японскага выдавецтва Paumes. Гэта сямейная кампанія, якая супрацоўнічае з дызайнерамі і мастакамі Старога Свету, выдаючы кнігі пра еўрапейскі стыль: кухні Скандынавіі, дзіцячыя пакоі Парыжа, майстэрні Лондана і г.д.

У кнігах вы знойдзеце шмат атмасферных і натхняльных выяваў, зусім крыху тэксту на японскай і гарантаванае візуальнае задавальненне!
Дастаўка па ўсім свеце.

# Вам ліст!

Тэкст: Ксенія Сасніна
Ілюстрацыі: Вікторыя Вавілонская




*Што ўжо тут хаваць, мы даўно “перасяліліся” ў інтэрнэт, але чаму б не ўзгадаць хаця б на час навагодніх святаў пра старое добрае папяровае ліставанне? Упэўненыя, што сябры і блізкія ўсміхнуцца, атрымаўшы вашае пасланне. А калі хочацца цудаў, мы рэкамендуем напісаць іншым цікавым персанажам. Што самае неверагоднае – яны могуць вам адказаць!*

# *Ліст Дзеду Марозу*

Тое, што некаторыя асобы не вераць у Дзеда Мароза, зусім не азначае, што не мае сэнсу пісаць яму лісты. Не саромейцеся, адпраўце яму пасланне, паведаміўшы між іншым, што ў сыходзячым годзе вы добра сябе паводзілі.
Беларускі Дзед Мароз жыве ў Белавежскай Пушчы, штогод у яго рэзідэнцыю прыходзяць тысячы лістоў з розных краінаў свету. Як і ўсе беларусы, ён вельмі працалюбівы і адказвае на кожнае пасланне.

**Адрас:**
*225063, п/а Каменюкі, Камянецкі р-н, Брэсцкая вобл.,*
*Белавежская пушча, Дзеду Марозу*

А яшчэ можна напісаць расійскаму Дзеду Марозу:
*162390, Россия, Вологодская область, г. Великий Устюг, Почта Деда Мороза*

Або фінскаму чараўніку Ёлупуккі, што жыве ў Лапландыі:
*Santa Claus Main Post Office, 96930, Arctic Circle, Rovaniemi, Finland*

Амаль у кожнай еўрапейскай краіне ёсць свой Дзед Мароз, які будзе рады адказаць на ваш ліст.

# *Ліст дубу-зводніку*



Гэты адрасат жыве, а дакладней, расце ў Германіі, і мае ўласную паштовую скрыню не проста так: гэтаму паспрыяла адна рамантычная і па-сапраўднаму казачная гісторыя, якая адбылася ў XIX ст...
...Стаяла недалёка ад магутнага дубу хатка, а ў ёй жыў ляснік. Была ў лесніка дачка, якая ўпотай ад строгага бацькі абменьвалася пасланнямі са сваім каханым, простым суседскім хлопцам. Паштовай скрыняй для лістоў служыла дупло дуба, так у закаханых атрымлівалася хаваць свае адносіны ад лесніка доўгі час. Але аднойчы ён усё ж такі даведаўся пра гэтае ліставанне. І пэўна б раззлаваўся, калі б яго не расчуліў спосаб зносінаў маладзёнаў. Ляснік зразумеў, што пачуцці дачкі і яе маладога чалавека моцныя, і блаславіў закаханых на шлюб. А вяселле гулялі пад дубам, які аберагаў пачуцці двух закаханых сэрцаў.

Дагэтуль існуе павер’е: хто дашле ліст гэтаму дрэву – абавязкова сустрэне сваё каханне.

**Адрас:**
*Bräutigamseiche, Dodauer Forst, 23701 Eutin, Germany*

# Ліст Джульеце

Калі вы ўжо знайшлі сваю другую палову, але ў адносінах не ўсё задавальняе, можаце звярнуцца за парадай да Джульеты – так, да той самай з Вероны. Закаханыя з розных куткоў планеты адпраўляюць шэкспіраўскай гераіне лісты, у якіх раскрываюць душу і дзеляцца самым патаемным. Ніводны ліст не застаецца без адказу! Напісаць Джульеце можна нават на рускай мове, бо сярод яе шматлікіх памочнікаў ёсць валанцёры з усяго свету, якія размаўляюць на розных мовах.

**Адрас:**
*Club di Giulietta, Corso Santa Anastasia 29, 37121, Verona, Italy*

# Ліст у будучыню

З надыходам Новага года нам хочацца пераменаў і здзяйснення мараў. Каб параўнаць, як мы змяніліся за год, можна напісаць ліст самому сабе ў будучыню. Для гэтага паслання не спатрэбіцца пэўны адрас і марка, бо яно будзе для вас. Напішыце пра сябе, распавядзіце пра тое, што вас хвалюе, якім вы бачыце сябе праз некалькі гадоў. Затым пакладзіце ліст у канверт, заклейце яго і пазначце дату адкрыцця: як мінімум праз год, каб добра забыцца пра змест паслання. Гэты ліст – выдатны спосаб спазнаць сябе.

Калі баіцеся, што ліст у будучыню згубіцца ў цяперашнім часе, карыстайцеся спецыяльнымі анлайн-сервісамі, дзякуючы каторым вы гарантавана атрымаеце свой ліст на электронную скрыню ў абраны вамі дзень. Напрыклад:

*mailfuture.ru*
*futureme.org*

# Ліст у ALOVAK

Рэдакцыя часопіса таксама любіць атрымліваць лісты, разглядаць вашыя малюнкі, чытаць водгукі і ўражанні пра нумары і матэрыялы ў іх. Мы заўсёды рады зносінам: пішыце на наш электронны адрас *alovakmag@gmail.com.* На ўсялякі выпадак пазначце ў лісце ваш паштовы адрас, хто ведае, а раптам у адказ мы дашлём папяровы ліст!





*Творчая майстэрня*

# “Культур-Мультур”

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Святлана Варашылава

*Рубрыка “бязМежнае” – пра месцы з атмасферай і гісторыяй, якія натхняюць і матывуюць. У творчасці межаў няма, таму не мае значэння, у якой кропцы зямнога шару знаходзяцца крамы або студыі. Творчая майстэрня “Культур-мультур”, якая адчынілася зусім нядаўна ў цэнтры Мінска, мае ўсе шанцы стаць менавіта такім месцам.*

Майстэрня размяшчаецца на першым паверсе крэатыўнага хабу “Корпус 8”, прамысловы будынак якога знаходзіцца на тэрыторыі былога заводу “Гарызонт”. Памяшканне “Культур-Мультур” раней было сховішчам, а рамонт пачынаўся з нуля. Таму не дзіўна, што ў дызайне студыі былі выкарыстаны прыёмы архітэктурнага стылю лофт.

Настасся Бачкарова, арт-дырэктар “Культур-Мультур”, распавяла нам пра тое, што дапамагло зрабіць творчую прастору асаблівай:
*– Высокія столі і велізарныя вокны – адна з асаблівасцяў заводскіх памяшканняў. Ад гэтага ў нашай майстэрні прысутнічаюць подых свабоды і лёгкасць, на падсвядомым узроўні распраўляюцца крылы. У інтэр’ер упісаліся нават водаправодныя трубы.*

*Стыль лофт, магчыма, і вызначаецца нейкай прыхаванай эканоміяй грашовых сродкаў на рамонт, тым не менш стварыць антураж творчай прасторы – справа не танная. Але мы прадумалі кожны яго квадратны сантыметр і засталіся задаволенымі вынікам.*

Рамонт цягнуўся каля двух месяцаў, у ліпені 2016 года творчая майстэрня пачала сваю працу. Настасся апісала мерапрыемствы, якія тут праходзяць:
*– У “Культур-Мультур” ладзяцца майстар-класы па кераміцы, на якіх мы навучаем ручной лепцы, ганчарнай справе, дэкараванню і роспісу. Гэтым не абмяжоўваемся: у нас праходзілі мерапрыемствы па скетчноўцінгу, летэрынгу, вырабу паліганальных вырабаў. Мы заўсёды знаходзімся ў пошуку майстроў і цікавых тэмаў для майстар-класаў і лекцый.*

Сама студыя прасторная і ўтульная. На адной з сценаў намаляваны чалавечак з пышнай фрызурай з сукулентаў. Дарэчы, гэтыя расліны ў “Культур-Мультур” літаральна паўсюль: розных формаў і памераў, яны расстаўленыя на падваконнях, сталах і палічках шафаў. Гэта своеасаблівая фішка студыі, якая, да таго ж, адлюстроўвае сувязь творчай майстэрні з салонам сукулентаў “Stone Rose”.

“Культур-Мультур” плануюць адчыніць уласную керамічную майстэрню. Для гэтага ёсць асобнае памяшканне насупраць студыі, у якім знаходзіцца муфельная печка. Дапамагае з арганізацыяй майстэрні кераміст Каця Шэйна. У хуткім часе ўсё мусіць здзейсніцца.

На пытанне пра асаблівасці “Культур-Мультур” Настасся адказала:

*– Нягледзячы на тое, што зараз з’яўляецца вялікая колькасць падобных месцаў, “Культур-Мультур” не баіцца згубіцца сярод іншых. Мы ствараем атмасферу і ўтульнасць, каб нашым гасцям было максімальна прыемна ў нас знаходзіцца. Наведвальнікі нашай майстэрні – людзі, зацікаўленыя ў сваім самаразвіцці, людзі, якія крочаць у нагу з часам, прытым вельмі прыемна адзначыць тое, што гэта людзі абсалютна рознага ўзросту.*





**Звярніце ўвагу!**
Майстэрня "Культур-Мультур" арганізавала майстар-клас для чытачоў часопіса ALOVAK па пляценні елачных цацак з папяровай лазы, якія вы можаце знайсці на старонцы 154.

**Карысная інфармацыя**
Творчая майстэрня "Культур-Мультур"
Адрас: г. Мінск, пр-т Машэрава, д. 9, корпус 8
facebook.com/kulturmultur.by
instagram.com/kultur_multur.by

# ПАПЯРОВАЯ ЛАЗА

## *майстар-клас па стварэнні плеценых елачных цацак*

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Святлана Варашылава



*Майстар Кацярына Наўковіч самастойна навучылася пляценню з папяровай лазы і займаецца гэтым ужо тры гады. У гэтым кірунку творчасці яна бачыць неабсяжныя магчымасці, а створаны ёй брэнд PaperWicker пастаянна папаўняецца новымі працамі. Мы сустрэліся з Кацярынай у творчай майстэрні "Культур-Мультур", каб яна навучыла нас ствараць з паперы арыгінальную елачную цацку.*



## Для стварэння папяровай лазы спатрэбяцца:



- палоскі газеты (або звычайнай папеpы) шырынёю 7-8 см;
- тонкі вязальны пруток (1,5-2 мм);
- клей (вадкі або клей-аловак);
- нажніцы ці канцылярскі нож;
- паўлітровы слоік;
- вада;
- колер ці харчовы фарбавальнік;
- акрылавы лак;
- мерная шклянка або шпрыц.

## Для пляцення спатрэбяцца:



- пафарбаваныя трубачкі;
- мяккі дрот;
- вадкі клей, напрыклад, ПВА



## 1.

Робім папяровыя трубачкі. Для гэтага раскладаем падрыхтаваныя палоскі газетнай паперы і змазваем ражкі клеем. Пад невялікім вуглом кладзём на паперу вязальны пруток і пачынаем шчыльна накручваць на яго палоскі. Каб папера не слізгала, можна падкласці пад яе сіліконавы дыванок. Прыклейваем папяровы кончык, які застаецца, і вымаем пруток. Такім жа чынам робім астатнія трубачкі.



## 2.

У паўлітровы слоік наліваем ваду, затым дадаем колер і акрылавы лак (прыкладна 80 мл на 0,5 л вады), старанна перамешваем. Апускаем трубачку ў раствор і правяраем колер. Калі ён недастаткова яркі, трэба яшчэ раз дадаць колер. Памятаем: вільготная папера заўсёды цямнейшая, улічвайце гэта, калі будзеце разлічваць прапорцыі колеру і вады. Каб адмераць патрэбную колькасць лаку, выкарыстоўваем мерную шклянку ці шпрыц. Лак трэба дадаць, каб фарба замацавалася і трубачкі не пэцкалі рукі.

У патрэбнага памеру ёмістасць наліваем крыху раствору і апускаем у яго трубачкі, каб яны пафарбаваліся. Таксама можна пафарбаваць трубачкі шырокім пэндзлем, расклаўшы іх на цэлафане.



## 3.

Вымаем трубачкі з раствору і чакаем некалькі секундаў, пакуль з іх сцячэ лішняя фарба. Затым раскладаем трубачкі ў адзін пласт для прасыхання, пасля чаго яны стануць крохкімі. Каб яны не зламаліся пры пляценні, перад пачаткам працы трэба апырскаць іх вадой. Зручней за ўсё карыстацца пульверызатарам. Канцы трубачак пакідаем сухімі. Абмотваем сярэднюю частку трубачак цэлафанам, каб яны як след прамоклі. Праз 15-30 хвілін трубачкі стануць дастаткова вільготнымі. Пасля гэтага можна прыступаць да пляцення.



## 4.

Каб сплесці зорку, неабходна адна доўгая трубачка. Для гэтага на канцы трубачкі робім зрэз па дыяганалі і капаем на яго кроплю клею. Устаўляем у шырокі кончык другой трубачкі, як бы ўвінчваючы яе. Кончыкі трубачак павінны адрозніваціца: адзін вузейшы, другі - шырэйшы. У атрыманую доўгую трубачку ўстаўляем дрот, які патрэбны для таго, каб трымаць форму.







## 5.

Згінаем трубачку на пяць адрэзкаў па 10 см. Даўжынёю адрэзкаў можна рэгуляваць памер будучай зоркі. З іх складваем зорку. Калі трубачка заканчваецца, сноў нарошчваем яе. Вядзём да супрацьлеглага вугла, пераварочваем і такім чынам абмотваем усю зорку.



## 6.

Каб акуратна схаваць канец трубачкі пры завяршэнні пляцення, устаўляем у яго пруток і працягваем яго праз зорачку. Вымаем спіцу, прыклейваем кончык да вырабу.



## 7.

Для сардэчка робім тое ж самае, толькі надаем трубачцы форму сэрца.

**Гатова!** Прывязваем нітачку і вешаем цацку на елку!

**Карысная інфармацыя:**
Кацярына Наўковіч, майстар
instagram.com/paper_wicker

# *малюем* ЦЯПЛО ВЯЗАННЯ



Агрэс Кагай
каляровыя алоўкі, папера
instagram.com/agress.kogai

Мы зноў запрашаем усіх тварыць разам з намі і прыняць удзел у традыцыйным конкурсе.
Тэма малюнка для восьмага нумара часопіса ALOVAK – **“ЦЯПЛО ВЯЗАННЯ”!**

Спецыяльна для ALOVAK адна з пераможцаў конкурсу малюнка мінулага нумара, Агрэс КАГАЙ, намалявала гэтую карціну.

Як ўяўляеце “цяпло вязання” вы? Быць можа гэта будуць вязаныя вырабы або кошык з клубкамі нітак і пруткамі? А можа вам захочацца стварыць вобраз героя папулярнага ў сацыяльных сетках хэштэга #вяжутнетолькобабушки? Малюйце так, як адчуваеце, як умееце: у любой тэхніцы, пры дапамозе любых матэрыялаў, галоўнае, каб ваш малюнак адпавядаў зададзенай тэматыцы.

*Публікуйце*

адсканаваныя ці знятыя вынікі вашай творчасці ў сваім профілі ў Instagram, Facebook або Вконтакте з хэштэгам #alovakmag_конкурс, у апісанні фота пазначце “Удзельнічаю ў конкурсе малюнка “Цяпло вязання” ад часопіса @alovakmag”.

Больш падрабязную інфармацыю пра правілы правядзення конкурсу шукайце на нашых старонках у сацыяльных сетках.

Будзьце ўважлівымі!
Для кожнай сацсеткі існуюць свае асаблівасці ўдзелу ў конкурсе.

Адзін з пераможцаў конкурсу атрымае падарунак ад нашага сталага партнёра крамы “Всё для художника”. Другому пераможцу дастанецца ўтульны вязаны падарунак ад дызайнера Ані Ламакінай. Яшчэ адзін таленавіты шчаслівчык атрымае магчымасць стаць аўтарам малюнка ў бліжэйшым нумары часопіса

КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

“Всё для художника”
*г. Мінск, вул. М. Танка, 30*
art-magazin.by

Аня Ламакіна
*дызайнер вязаных аксесуараў*
*instagram.com/lomaki*

Натхнення і поспехаў!

# #выбарALOVAK

*Стылёвыя працы таленавітых майстроў у навагодняй падборцы рэдакцыі нашага часопіса.*

Паважаныя чытачы, вы можаце паўплываць на наш выбар – адзначайце фотаздымкі са сваімі любімымі вырабамі хэштэгам #выбарALOVAK, давайце ствараць рубрыку разам!

Тэкст: Юля Прашковіч

Мілы фенек Ноа
ад Марыны Глебавай



Утульныя "целагрэйкі" для бутэлек
ад Алены Касінавай





"Ледзяная"
керамічная талерка
ад "Утки растопят лёд"



Магічны аметыставы кулон
ад REZZABELLUM



Ільняныя мяшочкі
для навагодніх падарункаў
ад "Бравая майстэрня"

Святочныя пернікі
ад ŽORNY



Падушка “Елачны шар”
ад Welldone textile studio



Пацешны абруч
“Аленевыя рожкі”
ад Алены Нерпінай





Сямейны партэт
ад майстэрні
“КРАСИВО ДОМА”



Чароўная гірлянда
(англійскі фарфор ручной адліўкі)
ад Albodies Porcelain



Цёплыя міценкі
ад Ганны Някрасавай

# ТРЫ апельсіны

*У кожным нумары ALOVAK дзеліцца сваімі простымі ідэямі,*
*што паляпшаюць жыццё.*
*Што мы маем на ўвазе, калі гаворым пра такія ідэі?*
*Ды ўсё, што заўгодна! Толькі б гэта:*
*- выклікала ўсмешку;*
*- прымушала забывацца пра клопаты і праблемы хаця б на хвілінку;*
*- давала магчымасць парадаваць сябе і людзей вакол*

апельсін

## НУМАР АДЗІН▶

Выкананне: Ірына Бельская
Тэкст, фота: Кацярына Бута

Для святочнага дэкору стала выдатна падыдуць разьбяныя апельсіны – выкарыстоўвайце для гэтага разцы па дрэве або звычайны канцылярскі нож і вашую фантазію. Разьба па лупіне апельсіну – пэўным чынам ароматэрапія, бо ў працэсе выразання выдзяляюцца часцінкі эфірных алеяў, што дабратворна ўплываюць на арганізм. А яшчэ разьбяныя апельсіны пры высыханні ператвараюцца ў лёгкія, практычна бязважкія ёлачныя цацкі!

апельсін

# НУМАР ДВА ▶

Выкананне, тэкст, фота: Кацярына Буто

Часам, каб падняць сябе настрой, дастаткова ўсяго толькі адчуць любімы пах. Пакладзіце ў маленькі рондаль дзелькі апельсіну, лімону, спецыі, заліце гэта невялікай колькасцю вады і пастаўце на агонь. Закіпаючы, сумесь пачне вылучаць водар, які напоўніць ваш дом святочнай атмасферай. А яшчэ з тых жа складнікаў можна прыгатаваць кампот – для гэтага спачатку закіпяціце ў рондалі ваду з цукрам, пасля чаго дадайце ў яе цытрусавыя і спецыі.

Калі дазваляе час і ёсць жаданне пазавіхацца на кухні падолей, чаму б не спячы апельсінавы пірог, шарлотку з яблыкамі і карыцай або імбірнае пячэнне? Праверана – выпяканне падобных кандытарскіх вырабаў напаўняе дом найсмачнейшымі водарамі!

апельсін

# НУМАР ТРЫ►

Выкананне, тэкст, фота: Вікторыя Сокур
vekoria.blogspot.com

Засушаныя дзелькі цытрусавых прымяняюцца ў дэкоры для ўпрыгажэння інтэр’еру, стварэння кампазіцый, вянкоў і іншых дэкаратыўных элементаў. Каб засушыць цытрусавыя разрэжце плод на дзелькі таўшчынёю 1 см, пакладзіце іх паміж двума кардоннымі аркушамі, папярэдне зрабіўшы ў іх дзірачкі. Кардон абматайце вяроўкай і пастаўце сушыцца паміж батарэямі. Дачакайцеся поўнага выпарвання вільгаці з цытрусавых – вашыя дзелькі гатовыя да далейшага выкарыстання.

**Звярніце ўвагу**

*Усе цытрусавыя пры высыханні даюць розны колер – лімон і лайм становяцца цёмна-карычневымі, а апельсін і грэйпфрут захоўваюць свой колер.*

# ШТО ВАС НАТХНЯЕ?

*Мы задалі гэтае пытанне тым, хто ўдзельнічаў у стварэнні часопіса. Глядзіце, якія разнастайныя адказы мы атрымалі!*



**Вікторыя Вавілонская, ілюстратар:**
*Мяне натхняе прырода, для мяне яна найлепшы мастак ува ўсім, пачынаючы ад перадачы колеру, заканчваючы будовай кампазіцыі. Я кожны дзень доўга гуляю з сабакам у полі, каля ракі, у лесе, і ў гэтых шпацырах заўсёды знаходжу нешта, што радуе вока, імкнуся запомніць гэтае пачуццё.*



**Кацярына Каранюгіна, фларыст:**
*Натхняе навакольная прырода, асабліва вячэрняе неба, у якім можна пабачыць самую неверагодную гульню адценняў і формаў, а таксама рэальныя людзі, іх пачуцці, думкі, дасягненні.*



**Кацярына Наўковіч, майстар:**
*Мяне часта натхняюць выпадкова ўбачаныя спалучэнні колераў, незвычайныя формы вырабаў або нейкія матэрыялы, як прыродныя, так і матэрыялы для творчасці, выпадкова заўважаныя ў магазіне. І, канешне ж, працы іншых майстроў, якія выклікаюць жаданне тварыць і імкнуцца да найлепшага выніку.*



**Саша Каратаева, ілюстратар:**

*Мяне натхняе само жыццё. Калі яго крыху адпусціць у вольны шлях у дапушчальных межах, вядома, яно завядзе цябе ў такія чароўныя месцы, да такіх цудоўных людзей, прымусіць спалучыцца з такімі несапалучальнымі абставінамі, што дзіву даешся. Вось у такім стане і трэба знаходзіцца пастаянна, каб тварыць.*



**Наталля Рэца, фатограф:**

*Больш дакладна будзе сказаць, што мяне натхняе само жыццё, хоць гэта і гучыць банальна. Я гляджу на жыццё як на няспынны шэраг магчымасцяў, радуюся зносінам з таленавітымі людзьмі, люблю гуляць з сабакам, люблю смачную ежу, люблю новыя ўражанні, люблю зіму, восень, лета і вясну. Я ўвогуле з тых людзей, якім складана сапсаваць настрой: у мяне проста няма часу і жадання доўга заганяцца з нагоды непрыемных рэчаў. Мне проста падабаецца гэтая справа – жыць. А калі падабаецца жыць, складана не мець натхнення. Хочаш – не хочаш, а яно прыйдзе, не адкруціцца!*



**Марына Кучук, фатограф:**

*Мяне натхняе Бог і людзі. Люблю назіраць за імі, за тым, як яны выглядаюць і паводзяць сябе, як яны выказваюць свае думкі.*

Фота: Ірына Бельская



## ДА СУСТРЭЧЫ!

**наш сайт:**

alovakmag.by

**мы ў сацыяльных сетках:**

facebook.com/alovakmag

vk.com/alovakmag

**мы ў інстаграме:**

@alovakmag